
Гайнаўскі садок → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Пра бежанства Гаўрылюкоў → 5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 18 (3181) Год LXII Беласток, 30 красавіка 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Кніжны кірмаш з суседскімі сувязямі

**80 выдаўцоў і 40 літаратараў, паказы фільмаў, дыскусіі, сустрэчы з аўтарамі і майстар-класы склаліся на праграму VI Кніжнага кірмашу ў Беластоку. З пятніцы па нядзелю (21-23 красавіка) Падляшскую оперу і філармонію наведалі тысячы людзей. Адным і з самых важных падзей сёлетняга кірмашу, думаю не толькі для беларусаў, были прамоцыі кніг беларускіх пісьменнікаў у перакладзе на польскую мову. «Каменданцкі час для ластавак»** «Godzina policyjna dla jaskółek» **Алены Брава і «Спачатку была цемра»** «Na początku była ciemność» **Барыса Пятровіча даступныя ўжо і польскаму чытачу дзякуючы карпатлівай працы перакладчыкаў Міры Лукшы і Юры Плютовіча. Кніжкі выйшлі дзякуючы арганізатару таргоў у Беластоку — Фонду «Суседзі».**


Фота Улі ШУБЗДЫ

**Барыс Пятровіч** — пісьменнік, журналіст, заснавальнік і галоўны рэдактар незалежнага літаратурнага часопіса «Дзеяслоў», старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Гомельшчыне. Барыс Пятровіч лічыцца найбольш яркім прадстаўніком экзістэнцыялізму ў сучаснай беларускай літаратуры. Творы Барыса Пятровіча былі перакладзены на англійскую, шведскую, французскую, нямецкую, рускую, польскую, чэшскую, балгарскую, славацкую, літоўскую, украінскую і іншыя мовы.

**— Вашы творы перакладаліся на шматлікія мовы, але, здаецца, гэта першая кніга, якая выйшла па-польску?**

**Барыс Пятровіч:** — Былі асобныя пераклады асобных тэкстаў, але кніга сапраўды першая. Я вельмі рады, што гэта нарэшце здарылася і рады прысутнічаць на кірмашы. Не ведаю як кніга будзе ўспрынята чытачамі, але маю надзею, што ўсё будзе добра.

**— Што прамаўляе за тым, каб польскі чытач сягнуў па Вашу кнігу?**

— Кніжка трошкі незвычайная і для Беларусі, таму што ў нас мала хто піша пра сучаснасць. У нас больш папулярная гістарычная літаратура, пішацца на ваенную тэматыку. А гэтая кніжка максімальна набліжаная да нашага часу. Падзеі там адбываюцца ў першыя гады незалежнасці Беларусі. Новая моладзь, з якой я сустракаюся часам на прэзентацыях, ужо забылася ці не ведае таго часу. Яны тады зусім былі маленькія. Старыя можа згадваюць з настальгіяй у пэўным сэнсе таму, што гэта быў час іхняй маладосці. Падзеі ў кнізе адбываюцца ў 90-я гады мінулага стагоддзя. Галоўны герой — малады хлопец, які пасля пераследу КДБ пацярпеў, страціў прытомнасць і некалькі гадоў правёў у доме інвалідаў. Фактычна страціў усё, нават сваё імя.

**— Польскі чытач, сягаючы па Вашу кнігу, зможа лепш зразумець беларусаў і сённяшнюю Беларусь?**

— Па вялікім рахунку ў нас няшмат памянялася за гэтыя 20 гадоў, нават прэзідэнт не памяняўся хаця іншыя краіны памянялі па два, тры а то і больш новых асоб пры ўладзе. Так што сапраўды ў нас не вельмі шмат змянілася і нават у параўнанні з тым, што адбываецца ў гэтым доме для інвалідаў. На жаль, Беларусь законсервавалася — гэта самае кепскае, самае дрэннае, што адбываецца ў нашай краіне. Ідзе развіццё, людзі і краіны развіваюцца, а мы топчамся на месцы, называючы гэта прыгожым словам «стабільнасць». Хаця стабільнасць можа адбывацца толькі ў адным месцы — на могілках.

**— Чаму менавіта гэтую кнігу, з ліку ўсіх напісаных Вамі, схацелі Вы паказаць польскаму чытачу?**

— Цяжка сказаць. Усё-такі мне больш падабаецца літаратура адарваная ад часу, літаратура, якая па-за часам, літаратура ў пэўным сэнсе мадэрная. І я так пачынаў пісаць хай і звязаныя з сучаснасцю, але ўсё-такі гэта былі менш дакументальныя творы. Гэта можа быць адна з самых дакументальных кніг таму, што хочаш не хочаш я быў прывязаны да таго часу, калі адбываюцца падзеі, хочаш не хочаш я вымушаны быў асвятляць тагачасныя факты, якія часам мяжуюць з публіцыстыкай. Многія людзі забыліся пра тыя гады, забыліся як тады цяжка жылося. Ужо мала хто памятае, што былі карткі на прадукты, што прадукты немагчыма было набыць. Мала хто ведае, як жылося старым людзям, інвалідам у гэтых дамах. Гэта было вельмі жорсткае, вельмі страшнае мясціна і нават тое, што я апісаў, таксама ўяўляецца страшным, але насамрэч было яшчэ страшней... Голад, холад, немагчымасць нейкім чынам пракарміцца нават таму, што дзяржава не звяртала ўвагі на дамы для састарэлых. Асабліва цяжка было там людзям маладым, такім вось як мой герой.

**— Адкуль у вас такое добрае веданне сітуацыі ў такіх дамах?**

— Я бачыў гэтае жыццё. У паблізкай вёсцы ад гэтай, дзе я нарадзіўся, быў такі прытулак. І, для прыкладу, мне не цяжэй было апісаць жыццё ў дамах інвалідаў, цяжэй было апісаць як чалавек вяртаецца да жыцця. Малады чалавек, які страціў памяць, страціў сваё імя, які пакутліва згадвае: адкуль ён? хто ён? Як ён вучыцца хадзіць, як ён вучыцца размаўляць нават таму, што за гэты час яго органы нямелі за некалькі гадоў ляжання. Трэба было на нейкі час стаць гэтым маладым чалавекам і ўявіць сабе як гэта адбываецца. Для мяне важнае было вяртанне чалавека з небыцця, з цемры да жыцця.


Фота Улі ШУБЗДЫ

■ Алена Брава і Міраслава Лукша


Фота Алеся Аркуша

■ Мінскія выдаўцы

**— Можна сказаць, што большасць беларусаў хварэе на амнезію.**

— Менавіта. У кнізе ёсць урач, які гаворыць да майго галоўнага героя, што ён увасабляе ў сабе Беларусь, якая не ведае дакладна свайго імя, хто яна: Беларусь, Літва, Крывія? Як краіна, якая забыла сваю гісторыю, не ведае з чаго пачынаць: ці з Вялікага Княства Літоўскага ці ад Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі... Краіна, якая баіцца. Вось мой герой баіцца пакінуць прытулак таму, што не ўяўляе сабе жыцця па-за домам інвалідаў. Ён не ўяўляе як ён будзе жыць сярод іншых людзей. Таксама Беларусь не можа вырвацца з палону савецкага, адысці ад той жа Расіі. Наша кіраўніцтва не ўяўляе сабе як яны будуць жыць, калі Беларусь будзе цалкам самастойнай краінай, яны прывязаныя да Расіі... Вось так у прынцыпе на лёсе майго героя, на прыкладзе таго дома можна сапраўды ўбачыць такую метафару сучаснай Беларусі. Мне здаецца, што ўсё-такі нешта новае з зусім нядаўняй гісторыі Беларусі і сучаснай Беларусі, я думаю, чытач зможа даведацца з гэтай кнігі.

❖Гутарыла **Уля Шубзда**


9 770546 196000



# Астравец нешанцавання

Была такая папулярная песенька з савецкай эксцэнтрычнай кінакамедыі — „Остров невезенья”. Жылі там на выспе няшчасныя людзі-дзікуны, якім фатальна не шанцавала. Што б яны не рабілі, справы ішлі няўдала, наперакос і недарэчна.

Наша шматпакутная Беларусь, тэрыторыя ў сярэдзіне еўрапейскага кантынента, усё больш нагадвае такую выспу спрадвечнага нешанцавання. У той час, як многія краіны былога сацыялістычнага лагера, некаторыя рэспублікі былога Савецкага Саюза, здабыўшы сапраўдную незалежнасць ад Масквы, развіваюцца з большай ці меншай ступенню паспяховасці, суверэнная на паперы Беларусь ніяк не можа вырвацца з лапаў „расейскага мядзведзя”. Гэты ўсходні сусед стагоддзямі вядзе сваю агрэсію на беларускія землі і не пакідае свайго пастаяннага памкнення знішчыць наш народ.

Ужо больш трыццаці гадоў прайшло з часу страшнай Чарнобыльскай катастрофы, калі ў Беларусь бяду прынёс „мірны атам”. Значная частка тэрыторыі нашай краіны апынулася забруджанай і непрыдатнай для жыцця, дзясяткі тысяч людзей атрымалі апраменьванне рознай ступені, тысячы дзяцей нарадзілася з рознай цяжкасці і характару паталогіяй. Тады яшчэ савецкая дзяржава цынічна пакінула людзей у бядзе, цэлы час хлусіла пра маштаб пагрозы. Праваднікі гэтай палітыкі выганялі людзей на першамайскую дэманстрацыю пад радыяцыйны попел у 1986 годзе. Гэта яны садзілі радыеактыўныя воблакі з дапамогай авіяцыі на беларускія палеткі і паселішчы. Гэта яны хавалі і хаваюць дагэтуль праўду пра страшныя наступствы таго выбуху. Гэта яны перасьледавалі людзей, навукоўцаў, якія імкнуліся адкрываць праўду людзям.

Сапраўдныя навукоўцы даводзяць, што спатрэбіцца яшчэ прынамсі 300 гадоў, каб на забруджанай тэрыторыі не засталося цэзію. А ёсць жа яшчэ і іншыя радыеактыўныя элементы. Дакладна вядома, што адны страшныя хваробы, такія як лейкемія, развіваюцца адразу пасля выбуху, іншыя ж анкалагічныя захворванні з'яўляюцца толькі пасля сарака гадоў. А гэта абазначае, што наперадзе непазбежна новыя беды і трагедыі. Ужо аднаго чарнобыльскага выбуху хопіць на тысячу гадоў. Але нягледзячы на ўсё гэта, сённяшняя, нібыта беларуская дзяржава, пад кіраўніцтвам сваіх крамлёўскіх патронаў будуе новую, патэнцыйна надзвычай страшную АЭС на тэрыторыі ўнікальнай прыроднай зоны — нашай Астравеччыны. Гіганцкі праект чужой дзяржавы, якая хоча пераўтварыць Беларусь у залежную калонію. Насельнікі ж Беларусі ў сваёй бальшыні не задумваюцца над самым галоўным у іх жыцці, не задумваюцца пра лёс сваіх дзяцей і ўнукаў. Мясцовыя жыхары альбо баяцца выступаць супраць гэтай злачыннай будоўлі, альбо наіўна спадзяюцца, што з пабудовай АЭС узнікнуць новыя працоўныя месцы. Няйначай як віламі радыёнукліды адкідваць збіраюцца!

Якіх яшчэ знакаў трэба народу, каб усвядоміць усю пагрозу новай смертаноснай АЭС на нашай зямлі!? Ужо двойчы ляснуўся гэты імпартаваны расейскі рэактар. Адзін раз яго грымнулі з вышыні аб бетон, калі вялі рэпетыцыю ўстаноўкі рэактара. Яны ж усё робяць для пазёрства, для прапаганды светлай атамнай будучыні. Другі раз іншы корпус рэактара сутыкнуўся пры перавозцы з металічнай апорай кантактнай сеткі. Афіцыйныя рупары запэўніваюць, што ўсё ў парадку, але веры ім няма і не можа быць ніякай. Паколькі гэтыя дзяржаўныя медыі і прэс-цэнтры заўсёды спецыялізаваліся і практыкуюцца дагэтуль на хлусні. Нават калі яны адзін раз са ста скажуць праўду — ці могуць ім паверыць людзі, якія маюць хоць адну звіліну ў мазгах?

Пачынаючы ад Чарнобыля, разнастайная сімволіка зашкальвае нібы тая страшная радыяцыя. Пішуць, што першая аварыя на АЭС здарылася ў ЗША ў мясцовасці, назва якой азначае прыблізна „тры астравы”. У многіх у памяці катастрофа ў японскай Фукусіме. А між іншым, з японскай мовы гэта назва перакладаецца як „Востраў шчасця”. Астравец у гэты семантычны шэраг кладзецца асабліва злавесна. Вядома ж, што сучасныя атамныя станцыі па магутнасці ў многія разы пераўзыходзяць даўнія, такія як чарнобыльская. І ранейшая прымаўка „Астравец — свету канец”, якая тлумачылася як аддаленае ад цэнтраў месца, набывае зусім іншы, змрочны сэнс.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Імбецыліёз

Імбецыліёз можа дарвацца да кожнага. Народжаных дурняў, аднак, абмінае, мабыць таму, што ніхто ад іх нічога мудрага не чакае. Хай бы дурні, нарэшце, пачалі кіраваць светам! Хто ведае, ці не быў бы ён тады лепшым. Можа быў бы больш недарэчным, але, мабыць, лепшы. Для ўсіх. Для тых, хто дурны, і тых, хто мудры. На жаль, чалавечая мудрасць па-ранейшаму паказваецца з найдурнейшага боку. Прыкладаў на гэта можна знайсці ў Гісторыі мноства. Таксама, мабыць, а можа перш за ўсё ў самай апошняй. Я з гэтага высноўваю, што імбецыліёз цяпер у эпідэмічнай атацы.

Як вядома, набіраюцца яго перш за ўсё людзі разумныя і высокаадукаваныя. І тым лягчэй, чым больш шае яны маюць меркаванне пра сябе. Імбецыліёз хвароба не заразная, але асаблівы стан розуму, які лёгка перадаецца ад чалавека да чалавека, як халера і тыф, неабавязкова шляхам капежнай інфекцыі. Але ўсё ж мае рысы атрутнага віруса. Уласцівае для яго тое, што заўсёды распаўсюджваецца ён па нейкім кругавым парадку. Гэтая схема з'яўляецца найбольш прыкметнай у колах улады. Хто ажыццяўляе або ўзурпуе яе больш, тым больш заражае сваё асяроддзе. Так імбецыліёз прагрэсуе па кругавому руху не толькі ў вертыкальных структурах улады, але таксама і ў гарызантальных. Мае ён шмат эпіцэнтраў і таму ён такі цяжкі для апанавання. Скажам, заражаны міністр лясной гаспадаркі пазаражвае сваіх намеснікаў, а тыя далей — падначаленых рэгіянальных дырэктараў, а ў фінале нават леснікоў і лесарубаў. Здавалася б, што ачаг інфекцыі і, такім чынам, непагасную крыніцу заражэння лёгка знайсці і адважным рашэннем міністра «сарваць галаву гідры». Ды справа больш складаная. Хопіць, што дзесьці ў ніжняй частцы адміністратыўнай іерархіі, у нейкім надлясніцтве сядзіць партыйны ветэран з адкрытым доступам да «вуха каго трэба». Шырока вядома, што «той хто трэба» мае пра сябе цвёрдае перакананне, што ён перш за ўсё неабходны для таго, каб усе ведалі аб тым, што як да каго, але да яго прыйсці трэба заўсёды — хай гэта будуць глупствы, хай сур'ёзныя праблемы; хай прасцецкі данос ці заблытанае падбухторванне. Залішне казаць, што чалавек з такой ганарлівасцю з'яўляецца крыніцай першаснага імбецыліёзу. І так запаленчы ачаг ідзе па ўзроўні ведамасных адносін і ступеняў улады, стаўшы эпіцэнтрам самім па сабе. Прытрымліваючыся міфалагічнага параўнання, у месцы адарванай галавы гідры гадуюцца новыя шматлікія галовы. І, нарэшце, трэба сказаць, што гэта на самой справе той імбецыліёз. Гэта асаблівы стан розуму, ідэнтычнага з завалам — ацвярдзеннем мозгу. Выяўляецца абсалютнай упэўненасцю ва ўласных рацыях, незвяртаннем увагі на рацыі іншых і, нарэшце, перакананасцю ў тым, што адзіна правільная рацыя — ягоная рацыя — пераможа. Гэта, відавочна, рацыя таго віруса, які размнажаецца, пакуль не заб'е свайго апошняга жывога носьбіта. І пытанне: што будзе пасля?

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Наш епіскап з Адрынок

Пасляпяўлікодны тыдзень не прынёс чаканага веснавога ацяплення. Наадварот, апынуліся мы ў сферы так зменлівага надвор'я, што прымаўка аб зменлівай як пагода жанчыне (ці наадварот) несумненна ў такой сітуацыі, пакінула свой адбітак і на штодзённых чалавечых суадносінах. З некалькіх, мужчынскіх крыніц атрымаў я пацвярджэнне, мякка кажучы, пра рэзкае пахаладанне іх узаемных эмоцый, а нават халоднаваенных дэкларацый. Застаецца тады на такія сардэчныя клопаты чакаць вясны як збаўлення. А калі ўлічыць яшчэ рэальнасць дрэннага адчування ці бяссонніцы для ўсіх метэапатаў, у тым ліку і ніжэйпадпісанага, то запозненая красуня-вясна нарабіла ўсім неблагога балагану. Не забыла яна пра марозныя праблемы сялянам і дачнікам, якія не могуць пачаць веснавых прац. Адным словам, пра Вялікдзень засталіся ўжо толькі ўспаміны, а пра веснавую вясёлку колераў, пахаў і цяпла пакуль прыходзіцца толькі марыць або сніць. Халоднае надвор'е вельмі далося ў знакі ўсім тым, хто выбраўся на Праваднуй нядзелю наведаць магілы сваіх продкаў ці блізкіх. Мой брат распавядаў мне, што вытрымаць доўга на могілках проста не далося і людзі хутка раз'язджаліся дамоў, каб разагрэцца за святочным сталом.

Пры застоллі апрача згадвання сваіх блізкіх гаварылася пра смерць у велікодныя дні архіепіскапа Іераміі, кіруючага Вроцлаўска-Шчэцінскай епархіяй Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Узначальваў ён таксама Польскую экуменічную раду, а працяглы час працаваў рэктарам Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве. Сам ён у свецкім жыцці — Ян Анхімюк, народжаны ў 1944 годзе, выйшаў у свет з Адрынок, што над Нарвай. Так, менавіта з тых Адрынок, дзе зараз знаходзіцца скіт айца Гаўрыіла. Стаіць там і надалей ягоны бацькоўскі дом. Думаю, што памяць пра архіепіскапа будзе айцом Гаўрыілам годна ўшанаваная ў выглядзе крыжоў ці памятнай таблліцы ў роднай вёсцы. Менавіта беларускаму сыну Падляшша прыйшлося кіраваць епархіяй, у якой асноўную групу вернікаў склалі ўкраінцы з поўдня Польшчы, пераселеныя туды ў рамках акцыі «Вісла» 1947 года. Зразумела, у пасляваенны перыяд за хлебам і працай трапіла на гэтыя землі шмат беларусаў з тадышніх перанаселеных беластоцкіх вёсак, але не яны былі галоўнай апорай тамашніх, праваслаўных прыходаў. Менавіта круглая, сямідзесятая гадавіна трагедыі ўкраінцаў згадвалася і ў велікодным пасланні да вернікаў епіскапаў Праваслаўнай царквы ў Польшчы. Для ўладыкі Іераміі праца ў шматканфесійным і таксама шматнацыянальным асяроддзі спрычынілася да яго вялікай адкрытасці на іншых людзей. Менавіта роля экуменічнай справы на Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі і міжканфесійнага супрацоўніцтва ўсіх хрысціян сталі для яго ўказальнікам не толькі ў душпастырскай працы. Ягоная адкрытасць была вельмі важнай і запатрабаванай у ролі, якую ён адыграў у стварэнні Брацтва праваслаўнай моладзі і арганізацыі паломніцтваў на Святую Гару Грабарку ў васьмідзясятых гадах мінулага стагоддзя. Сам прыгадваю менавіта мастацка-паэтычныя вогнішчы ў той час, на якіх менавіта прэзентавалася і ўзмацнялася беларуская і ўкраінская тоеснасць. А маладыя людзі, апранутыя ў нацыянальную вопратку, гарманічна ўпісваліся ў духоўнасць і гісторыю Царквы і Падляшскай зямлі. Хто не верыць, дык няхай паглядзіць архіўныя здымкі. Менавіта зварот да роднай мовы і сваёй культуры быў характэрнай з'явай таго часу, а выданне царкоўных, маладзевых газетак па-беларуску стала рэальнасцю. І памятаю менавіта ласкавую ўсмешку ўладыкі Іераміі, які ніколі перад моладдзю не хаваў сваёй беларускасці. У час канцэртаў спяваў Ён разам з моладдзю песні на іх родных мовах. На жаль, заведзеная потым, а мо накінутая канцэпцыя будучыні моладзі як толькі палякаў-праваслаўных нарабіла вялікіх праблем у нашым канфесійна-нацыянальным жыцці. Але дастаткова глянуць на тадышніх маладзёнаў з паломніцкіх заездаў, а сёння лідараў праваслаўнага руху. Менавіта яны бачаць яшчэ неабходнасць падтрымліваць і не забываць сваю нацыянальнасць і гісторыю сваіх дзядоў і бацькоў. Час менавіта паказвае, што кінутае тады ўладыкам Іераміем зерне не пайшло дарма. Вялікая падзяка і вечная Вам памяць ад беларусаў Беласточчыны.

Яўген ВАПА

# Праваслаўны дзіцячы садок у Гайнаўцы

**Непублічны дзіцячы садок імя святых свяціцелей Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы** паспяхова дзейнічае з верасня мінулага года ў памяшканнях Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Заснавала яго Галоўнае праўленне Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Польшчы, а арганізацыяй прадшколля занялося гайнаўскае аддзяленне Праваслаўнага брацтва, якому старшынюе Люцына Рушук, і дырэктар Непублічнага прадшколля святога дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім Валянціна Мельнік-Нікалаюк, якая часова кіруе дзейнасцю гайнаўскага прадшколля. У супрацоўніцтве з Самаўрадавымі садкамі № 3 і № 5 у Гайнаўцы праваслаўнае прадшколле ў другой палове школьнага года рэалізуе два праекты па вучобе беларускім народным песням, танцам, беларускай мове і мясцовым дыялектам пад наглядам настаўніцы бельскай «тройкі» і загадчыцы беларускага народнага калектыву «Жэмэрва» са Студзіводаў Анны Фіёнік і настаўніцы беларускай мовы ў Комплексе школ № 1 у Гайнаўцы Анны Франкоўскай.

Калі заходжу ў Кірыла-Мяфодзіеўскі садок у Гайнаўцы, дзеткі вітаюцца са мной пасхальным воклічам «Хрыстос Уваскрос», паколькі спатыкаемся на Светлым тыдні. Дзеткі кажуць, што любяць займацца ў прадшколлі — рысаваць, гуляць у свае гульні, слухаць казкі, гаварыць вершыкі, вучыцца мовам, а таксама плаваць на крытым басейне. Дашкольнікі любяць наведваць суседнія садкі, дзе супольна з тамашнімі дзеткамі прымаюць удзел у цікавых занятках.

— Наша праваслаўнае прадшколле цяпер рэалізуе два праекты. Мэтай праекта «Сваю мову мы вывучым уміг» з'яўляецца азнаямленне дзетак з мовай іх продкаў, паказанне ім моўных адметнасцей, фармаванне ў дзетак грамадскай прыналежнасці і патрыятычнай адказнасці. Праект, у рамках якога дзеткі вучацца перш за ўсё беларускай мове, дзякуючы датацыі з Гарадской управы ў Гайнаўцы рэалізуецца ад лютага і будзе доўжыцца да канца чэрвеня гэтага года. Другі праект «У нас місія зберагаць традыцыі — традыцыйны дашкольнік», фінансаваны са сродкаў Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, рэалізуецца з лютага да канца снежня гэтага года. Цяпер з дзеткамі займаецца Анна Фіёнік, а мэта заняткаў — разбуджваць у дашкольнікаў зацікаўленасць народнымі песнямі, танцамі, знаёміць іх з мясцовымі абрадамі, традыцыямі, уборамі. Пасля ў рамках другога праекта плануем яшчэ наладзіць тэатральныя сустрэчы з Іааннай Стэльмашук-Троц і этнаграфічныя заняткі. Да ўдзелу ў праектах мы запрапанавалі па 25 дзетак і таму наладзілі супрацоўніцтва з двума самаўрадавымі садкамі ў Гайнаўцы і запрасілі іх дзетак на супольныя заняткі. Я думаю, што навучанне беларускай мове ў нашым прадшколлі будзе весціся пастаянна. Нашы дзеткі цяпер рыхтуюцца да конкурсу «Беларуская песня». Можна сказаць, што ў нас ёсць ужо вакальны калектыў, які мы назвалі «Сундучок». Назва спасылаецца на спадчыну нашых продкаў, як матэрыяльную, якая перахоўвалася ў сундуках, так і духоўную. Спяваць па-беларуску вучыць дзетак Анна Фіёнік. Карыстаючыся сваімі сродкамі, мы пашылі дзеткам прыгожыя касцюмы, у якіх дашкольнікі выступяць падчас конкурсу «Беларуская песня», — распавяла намесніца дырэктара Непублічнага садка імя свсв. Кірылы і Мяфодзія Анна Мускала і паінфармавала, што да рэалізацыі абодвух праектаў дайшло дзякуючы актыўнасці Кацярыны Чурак з гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва.

— Я вучу гайнаўскіх дашкольнікаў нашым песням, танцам, гульням, скарагаворкам, вершыкам. Мы таксама крыху размаўляем на беларускай мове і яе падляшскіх дыялектах, чытаем народныя казкі, водзім карагоды. На заняткі прывожу ляльку Алесю, якая жыве ў Белавежскай пушчы, разумее толькі па-свойму і дзеткі звяртаюцца да яе на нашай мове, — сказала настаўніца бельскай «тройкі» і загадчыца калектыву «Жэмэрва» Анна Фіёнік, якая вядзе заняткі ў Самаўрадавым садку з інтэграцыйнымі аддзяленнямі № 3 у Гайнаўцы.

Праект «Сваю мову мы вывучым уміг» праваслаўнае прадшколле рэалізуе ў супрацоўніцтве з Самаўрадавым садком № 5 у Гайнаўцы, а заняткі вядзе там настаўніца беларускай мовы Анна Франкоўская. Падчас адных заняткаў дашкольнікі абодвух прадшколляў праспявалі прывітанку на беларускай мове «Ці ўсе ёсць». Дзеткі ўспаміналі словы песні «Кропіць дожджык» і з дапамогай хустак выконвалі сцэнку да гэтай песні. З зацікаўленасцю дзеткі выслухалі беларускую казку «Курачка-рабка», глядзелі фатаграфіі да яе, выказваліся на тэму зместу казкі і замалёўвалі рысункі да яе.

— Мы вучымся гаварыць па-беларуску. Я навучыўся лічыць на беларускай мове і на конкурсе дэкламаваў вершык па-беларуску, — заявіў Пятрусь Мускала, які беспамылкова і з правільным вымаўленнем прадэкламаваў мне верш «Жабін канцэрт».

Максім Гаўрылюк, які якраз не быў прысутны на занятках, падчас раённага адборачнага тура дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова» вершам «Барсук і сарока» заняў трэцяе месца і атрымаў пропуск на цэнтральныя спаборніцтвы конкурсу ў Бельску-Падляшскім.

— Нам падабаюцца заняткі, на якіх мы гаворым па-беларуску і па-свойму, — гаварылі мне дашкольнікі Анастасія Васілюк і Пятрусь Мускала.

— Мы з паняй Аняй гаворым па-беларуску прывітанку, спяваем беларускія песні, чытаем казкі і цікава нам на гэтых занятках, — сказалі Анастасія Васілюк і сёстры Зося і КсеніяАндрасюк. Анастасія і Зося дабавілі, штотаксама падчас беларускага конкурсу ў Гайнаўскім доме культуры выступалі з вершыкамі.



— Нашы дзеткі знаёмяцца з аснoўнымі словамі беларускай мовы і ў агульным з культурай сваіх продкаў. Пры гэтым гуляюць разам з настаўніцамі. Яны рады, што гавораць па-беларуску вершыкі, лічылкі, скорагаворкі і спяваюць песні, — сказала настаўніца праваслаўнага прадшколля Эвеліна Кіпрыянюк.

У садку сустрэў я яшчэ Шымана Сакоўскага, Шымана Палавянюка, Матэвуша Мартынюка і хлопчыка кітайскай нацыянальнасці, які добра адчувае сябе сярод праваслаўных дзетак.

— Мы не закрываемся толькі ў сваім праваслаўным асяродзі. Наша прадшколле адкрытае на дзетак іншых веравызнанняў. Таму ў нашым прадшколлі займаецца Шанг Лінзханг — хлопчык кітайскай нацыянальнасці, якога называем Люцак. Яго бацькі жывуць у Гайнаўцы і тут займаюцца сваім бізнесам. Калі хлопчыка пасталі да нас, ён не ведаў ні польскай, ні англійскай моў, толькі размаўляў на сваёй роднай мове. Аднак зжыўся ўжо з нашымі дашкольнікамі і мы па-рознаму дамаўляемся з ім, — сказала намесніца дырэктара прадшколля Анна Мускала, якая паінфармавала, што з верасня яно не будзе ўжо філіялам Непублічнага садка імя святога дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім, а стане самастойным прадшколлем. — Спачатку ў нашым садку займалася 6 дзетак. З часам іх лік павялічваўся. Цяпер у нас займаецца 10 дашкольнікаў, а з першага мая будзе ў нас 12 дзетак. З верасня ў нашым прадшколлі будзе прынамсі 18 дзетак і застануцца толькі 4 свабодныя месцы на наступны школьны год. Пачатак дзейнасці нашага прадшколля быў складаны і мы рады, што дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Яўген Сачко згадзіўся наняць нам два пакоі з ваннай і туалетам. Аддасць нам у наймы яшчэ адзін класны кабінет у школе. Мы можам таксама праводзіць фізкультурныя заняткі ў люстранай зале белліцэя. Займаемся выхаваннем і навучаем паводле праграмы, якая абавязвае ў іншых гайнаўскіх дзіцячых садках. Нашым дзеткам арганізуем музычныя, танцавальныя, мастацкія заняткі, праводзім сацыятэрапію, сэнсамастацтва, а таксама вучым беларускай, рускай і англійскай мовам, праводзім пастаянныя заняткі на басейне.



■ Дашкольнікі Кірыла-Мяфодзіеўскага садка ў Гайнаўцы з віцэ-дырэктар Аннай Мускала (справа), настаўніцай Эвелінай Кіпрыянюк (пасярэдзіне) і мамай Матэвуша Мартынюка

— Мы любім у нашым прадшколлі гуляць, слухаць казкі, вершыкі, спяваць песні і рысаваць, — гаварылі мне дашкольнікі, якія рысавалі святочныя працы.

Праваслаўнай рэлігіі вучыць дашкольнікаў духоўны апякун гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія іерэй Марк Юрчук, вікарны святар Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы.

— Мы па пятніцах і падчас вялікіх святкаванняў ходзім з нашымі дашкольнікамі маліцца ў царкву Нараджэння святога Іаана Хрысціцеля, якая знаходзіцца непадалёк ад нашага прадшколля. Яе настаяцель протаіерэй Іаан Раманчук таксама дапамагае нам. Мы ездзілі з паломніцтвам на Святую Гару Грабарку і хочам яшчэ з'ездзіць у Жаночы манастыр у Звярках, — заявіла віцэ-дырэктар Анна Мускала.

У студзені дашкольнікі Кірыла-Мяфодзіеўскага садка ўдала калядавалі перад гайнаўскай публікай падчас Гайнаўскіх сустрэч з праваслаўнай калядкай і ў катэгорыі дашкольнікаў атрымалі вылучэнне.

— Нашы дзеткі пабывалі ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Нам асабліва спадабалася выстава даўніх рамёстваў, — сказала настаўніца Эвеліна Кіпрыянюк. — Дзеткам цікава было паглядзець музейныя экспанаты.

— Наша мэта — выхоўваць дзетак у духу пашаны хрысціянскіх вартасцей, уласнай культуры і традыцыі. Мы стараемся выходзіць з ініцыятывамі, якія падтрымліваюць дзейнасць нашага прадшколля. Збіралі мы сродкі на дзейнасць садка калядуючы, выконваючы велікодныя аздабленні, за што атрымлівалі ахвяраванні ад вернікаў, — сказала віцэ-дырэктар Анна Мускала і паінфармавала, што супольна з Кацярынай Раманюк і з дапамогай Марціна Абійскага з Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку рыхтуюць праект развіцця гайнаўскага праваслаўнага садка. У выпадку паспяховай рэалізацыі праекта з верасня 2018 года маглі б у прадшколлі займацца нават 30 дзетак і працаваць спецыялісты па рэабілітацыі, якія дапамагалі б патрабуючым дашкольнікам.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Стыпендыя
## арлянскага войта вучням

На сесіі арлянскай Гміннай рады 31 сакавіка г.г. радныя запусцілі Праграму падтрымкі адукацыі таленавітых дзяцей і моладзі з тэрыторыі Арлянскай гміны. Праграма прадбачвае падтрымку вучняў, якія дзякуючы сваёй працы і ангажаванасці дабіваюцца высокіх паказанняў у навуцы і спорце.

**Мэты праграмы:**

- прасоўванне вучняў таленавітых у навуцы і спорце;
- стварэнне мясцовай сістэмы прасоўвання і ўзнагароджвання вучняў, якія дабіваюцца выдатных вынікаў у навуцы і спорце;
- стварэнне станоўчых узораў для вучнёўскай грамады;
- заахвочванне да прадстаўлення гміны ў конкурсах, спаборніцтвах і алімпіядах на розных узроўнях змагання;
- матывіроўка бацькоў да падтрымкі вучобы таленавітых дзяцей;
- матывіроўка вучняў да дзейнасці, раскрываючай уласныя здольнасці ды працы па развіцці талентаў і ўзбагачанні ведаў;
- прамоцыя Арлянскай гміны, як гміны прыязнай таленавітым вучням.

Формай рэалізацыі праграмы ўстаноўлены стыпендыі за дасяганне высокіх вынікаў у навуцы і спорце.

Я, як радны, спытаў войта, чыя была гэтая задума і ці такія стыпендыі ёсць у іншых гмінах. Войт Пётр Сэльвесюк адказаў:

— Гэта мая ідэя. Падобная сістэма праце ў Бельску-Падляшскім, але паводле іншых прынцыпаў. Ніводная іншая гміна ў павеце не мае такой праграмы. Праграма будзе заключацца ў тым, што вучням, якія дасягнуць высокіх ацэнак у навуцы або даб'юцца высокіх месцаў у маштабе ваяводства або краіны ў спорце, будзем выплачваць месячныя стыпендыі. Стыпендыя будзе вытворнай ад сярэдніх ацэнак паасобных вучняў і будзе выплачвацца цягам дзесяці месяцаў. Яна будзе вызначацца наступным чынам:

Пры сярэдняй 4,5 да 4,74 — 50 зл. у месяц; 4,75 да 4,99 — 100 зл. у месяц; больш за 5 — 150 зл. у месяц. Гэтыя квоты можа не ўражваюць, аднак павінны матываваць дзяцей да навукі, да добрых ацэнак. У горадзе Бельск падобная сістэма прэміравання вучняў, толькі там гэтыя стыпендыі выплачваюцца раз у год тым вучням, у якіх сярэдняя большая за 5,5 і яны вартасцю ў 50 зл. Значыць дыяпазон тут вельмі розніцца. Па другое — хочам падтрымліваць асоб, якія ствараюць вышэйшы ўзровень і спадзяюся, што ў будучыні будуць годна прадстаўляць нашу гміну навонкі і разлічваю, што частка тых асоб вернецца сюды і зойме нашы пасады.

Да таго ж — калі ўспамагаем найбяднейшых асоб у пакупцы лекаў — у мінулым годзе на такія даплаты расходавалі больш за 56 тысяч зл., — то я падумаў, што таксама павінна быць і праграма, якая падтрымлівае таленавітых вучняў.

* * *

Да сказанага войтам хачу дадаць, што згодна з пастановай, такіх стыпендый не прызначаецца вучням першых трох класаў пачатковай школы.

Стыпендыя можа быць прызначана вучню, які:

- за школьнае паўгоддзе атрымаў прынамсі выдатную ацэнку паводзін і прынамсі сярэднюю ацэнку 4,50, або
- стаў лаўрэатам прынамсі ваяводскага этапу прадметнага конкурсу і атрымаў прынамсі добрую ацэнку паводзін, або
- заняў 1-6 месца ў спартыўным спаборніцтве ваяводскага ўзроўню, вядучае месца (1-12) у агульнапольскім спартыўным спаборніцтве і атрымаў прынамсі добрую ацэнку паводзін.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Вялікдзень з Толікам



**Чым бліжэй Пасхі, тым больш думак пра Толіка Баравіка з падкрынскіх Вялікіх Азяран. Слухаю свае архіўныя гуказапісы з рэгіянальных этнаграфічных экспедыцый. Ёсць там і Толік. Назаўсёды застанецца, нават калі адыдзе. Не выкіну і яго здымкаў. Вось так рыхтуюся даць інтэрв'ю Марку Заброцкаму з Беластоцкага радыё.**

Слухаючы, адчуваю недахоп, непаўнацэннасць сваёй працы. Гэта ж толькі гук, а дзе вобраз? Але ўжо праз пару хвілін даходжу да высновы, што гэта лепшае, чым нейкі фільм. Гук узбуджае ўяўленне, можна сказаць стварае ў галаве своеасаблівую мастацкую, казачную стужку. Люба, Марыя, Анатоль, Надзя расказваюць падрабязна пра непаўторны досвед велікоднай мітусні ў хатах, на вуліцах, у цэрквах. Чую стук конскіх капытоў на прыцаркоўным бруку, пах пірагоў і свойскага мяса, малітву жабракоў, спеў царкоўных хароў і святочна падхмеленых валакальнікаў.

Непаўторнае таксама таму, што не паўторыцца. Марк пытае ці не збіраюся адраджаць валачэнне. Катэгарычна не. Цяпер іншы час. Некалькі гадоў таму пайшла я калядаваць. Такі сорам, такое прыніжэнне, жабраніна, інакш не назавеш.

* * *

На трэці дзень Пасхі загружаю аўтамабіль пірагамі, вялікім на палову задняй канапы акардэонам і еду нарэшце да свайго Толіка.

Дзякуй Богу, што не на ровары. Пасярэдзіне вёскі акружае мяне ватага раз'юшаных, галодных сабак. І больш нікога няма, ні бабулі на лаўчыцы, ні аўтамабіля ўнучат з Беластока ці Саколкі. Адным словам — вёска-могільнік, толькі замест надмагільных крыжоў пакінутыя, апусцелыя хаты.

Даязджаю да другога краю сяла. На вокнах, вечная ёй памяць, цёткі Зіны чырванеюць герані ў белых, пластмасавых вазонах.

— Як гэта магчыма, хто іх даглядае? — пытаю ў Толіка, выйшаўшы з аўтамабіля.

— Штучныя, — адказвае коратка.

Бачыў мяне праз акно, усміхнуўся з-за стоячых на падаконніку жывых гераней. Гэта памятка па маме, якая заўсёды іх гадавала. Толькі пад яе рукой раслі яны нашмат буйней. Не застукаўшы, усё роўна не пачуе, адчыняю старадаўнія дзверы, першыя, потым другія.

Запрашае мяне на пакоі — цёмныя, цесныя, але ўласныя.

Усё тут па-старому, быццам час спыніўся, акрамя плазменнага тэлевізара на покуці пад старымі абразамі. Другі канал беларускага тэлебачання раве быццам парася перад святам. Цёця Зіна — ягоная суседка і лепшая сяброўка — таксама толькі беларускае аглядала. Якраз паказваюць нейкую ерунду. Даўно адвыкшы ад тэлевізара, прашу сцішыць, вельмі ж мяшае ў кантакце з рэчаіснасцю. Толік, дзякуй Богу, выключае.

Тры дні не быў на вуліцы.

— І ў царкве не былі? — спраўджваю верагоднасць выказвання, ведаўшы што на трэці дзень свята заўсёды служаць у азяранскай царкве.

— Быў, агародамі на трактары паехаў. Праз вёску цяпер не праедзеш з-за сабак Піліпіка. Нават жаўнеры іх баяцца, колы ў аўтамабілі пеперакусваюць. А з Піліпікам дагаварыцца немагчыма, не ўсе ў яго дома, кажуць. Сабак таксама яму не адбярэш, закон не дазваляе.

— Так, цяпер зусім страх заглядаць у вёску, — пацвярджаю.

* * *

Прапаную ўсё-такі выйсці з хаты. Пагаджаецца з ахвотай.

Надвор'е халоднае, але ў адрозненне ад першага дня Вялікадня, сонечнае.

— Бацюшка сказаў сёння, што Азяранам Бог спецыяльна пагоду паслаў, — гаворыць Толік.

Ідзем агародамі, балоцістай сцяжынай, раз'езджанай джыпамі пагранічнікаў. Настолькі непраходнай, што ў некаторых месцах паклалі вялікія калы. Перад намі цудоўны луг і рэчка спадара Толіка. Далей толькі Беларусь. Няма нічога лепшага ў жыцці, чым вёска з рэчкай. Толіку пашанцавала. Калі пасля вайны выкапалі тут рэчышча, палова яе сённяшняй шырыні вылілася на частку луга. У выніку рэчка перасохла.

— Шырокая была, з прыгожым пясчаным берагам. Колькі ж тут моладзі ўлетку збіралася. І кляшчоў ніякіх не было, — гаворыць, абтрасаючы чырвоныя галоўкі з нагавіц.

Казачны краявід псуе пралягаючы праз раку высокі плот з сеткі.

— А вы былі ў Беларусі? — пытаю.

— Не, ніколі, — адказвае са спушчаным зрокам. — А навошта мне туды пхацца. Я і тут магу быць беларусам.

У вёсках за сеткай жыве шмат яго радні. Апошнім разам бачыў іх у саракавых гадах, яшчэ да перамяшчэння польска-беларускай мяжы. Затое часта сустракае беларускіх памежнікаў на службе — пяшком і на аўтамабілях. Пальцам паказвае месца, дзе стаяла іхняя «кукулка» — такі тэлефон, на якім ім званілі. Каванне гэтай «кукулкі» далятала да самой вёскі. Восенню відаць таксама святло ў хатах па другім боку мяжы. Чуў, што засталіся іх там усяго тры штукі. Няма ўжо і мастоў на рэчцы. Толькі пры яго лузе было іх два. Цудоўны, маляўнічы луг, зямля засеяная збожжам, але што ж, калі няма каму яе перадаць у спадчыну. Толік ніколі не жаніўся і дзяцей таксама не нарабіў.

Яго цётка, выдатная бухгалтарка, таксама незамужняй і бяздзетнай была. Значыць, быў у яе сын, але памёр рана.

— А мужык? — пытаю.

Распісалася ў вайну з краснаармейцам Даўгарукавым. Пасля даслаў ёй пісьмо, што ў яго ў Расеі ёсць жонка, нашмат прыгажэйшая за яе. Быццам з песні Лявона Вольскага пра бедную Манечку.

— Віцькін бацька таксама рускі. Ён сапраўды прыгажун, чысты рускі, нават акцэнт адпаведны, — гаворыць, здраджваючы сімпатыю да расіян.

— Так дзе той бацька? — пытаю. Не здзіўляюся даведаўшыся, што Віцька так і ніколі яго не бачыў. Нехта сказаў, што загінуў на вайне.

— Іх тут шмат у вёсцы жыло. Каб застацца назаўсёды, неабходна было пажаніцца. Шмат тут такіх шлюбаў было, толькі толку ад гэтага ніякага. Наступаючыя немцы ўсіх іх пагналі, каго забілі, а хто на радзіму вярнуўся.

* * *

Бяруся за акардэон, які некалькі гадоў таму атрымала ад Толікавага сваяка і сябра, таксама ўраджэнца Азяран Колі Адаміка.

— Выдатна іграў ён, — успамінае Колю Толік. — Нават ноты ведаў. Заехаў да мяне сёння па царкве на гарбату. Мы якраз і пра гэты акардэон гаварылі. Сказаў, што аддаў, толькі не хацеў здраджваць каму.

Мой спеў велікодна-валакальных песень пераплятаецца з успамінамі Толіка.

Якраз у гэту пару з'язджалі музыканты на забаву. Дзяўчаты былі адказныя за падрыхтоўку хаты да танцаў. Найчасцей пільнаваліся чаргі. Часта бывала, што гаспадары, якія аддалі хату на забаву ў першы святочны дзень, пускалі і на чарговыя тры. Можна сабе ўявіць як пасля забавы выглядала хата. Дык усё ж адна хвала. Першага дня запынялі танцы апоўначы і пачыналі валачэнне. Спярша ў Малых Азяранах а потым вярталіся ў Вялікія.

— Чамусьці малаазяранцы ніколі не валакалі, — здзіўляецца Толік.

У вокны барабанілі. Усіх з ложкаў павыцягвалі. Праўду кажучы, ніхто тады не лягаў спаць. На трэці дзень велікодных святаў краму трэба было ў вёсцы адчыняць, каб сырыя яйкі, пакладзеныя гаспадарамі ў валакальны кошык, прадаць.

— З пабітых смажылі яечню. Выдатная закуска пад самагонку, — з усмешкай глядзіць у акно.

У Азяранах жылі таксама Толікавы дзяды і шмат іншай радні. Але ніхто нікога ў госці не клікаў. Не было такога звычаю. Толікаў бацька не вярнуўся з вайны. Жылі з мамай надта бедна, але ніколі ніхто з сямейнікаў не працягнуў ім рукі. Нават на Вялікдзень.

Толік падпявае за мной азяранскую «Канапельку», сапучы ад хвалявання.

У падарунку вымае з халадзільніка шакалад — вялікі, з печным лікёрам, нейкай гданьскай вытворчасці. Падарунак ад тамашніх сваякоў.

— Гэта тваёй дачцэ, — тлумачыць.

На Таніна шчасце распуста адабрала ахвоту на шакалад. А ён быў такі смачны...

**Іаанна ЧАБАН**

# З „Нівай” у святочныя дні

Велікодны нумар „Нівы” (№ 16 ад 16 красавіка 2017 года) купілі і чыталі шматлікія жыхары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Ужо ад самой раніцы ў чацвер, 13 красавіка г.г., беларускі штотыднёвік быў у продажы ў нараўчанскіх крамах ГС і „Аргелян” ды на тамашняй пошце.

Яшчэ перад святам — у чацвер, пятніцу і ў суботу — прывёз я шмат экземпляраў роднай газеты ў Новае Ляўкова, між іншым, Марыі і Кастусю Целушэцкім, Міхалаю Скепку, Віталю і Вользе Скепкам, Аляксандру і Галіне Скепкам, Аляксандру і Валянціне Ігнацюкам, Лідзіі і Юрку Трусевічам, Ніне Галубоўскай, Лідзіі Галубоўскай і Зіне Садоўскай, у Старое Ляўкова Міраславе Балтрамюк, у Навіны Кастусю Ярашуку ды ў Плянту Валянціне Самойлік і Галіне Бірыцкай.

Дзесяць з вышэйзгаданых асоб вучылася ў старaляўкоўскай школе і я прапанаваў ім прачытаць, між іншым, мой артыкул пад загалоўкам „Успамінаю школу ў Старым Ляўкове” ды паглядзець змешчаныя ў пачатку тэксту два з захаваных у рэдакцыі архіўныя фотаздымкі. Былыя выпускнікі гэтай школы пазналі на адным са здымкаў, хто тады быў вучнем і іграў на музычных інструментах у школьным аркестры пад кірункам настаўніка Васіля Целушэцкага, які быў кіраўніком школы ў Ляўкове.

Варта дадаць, што ў краме „Аргелян” святочную „Ніву” купіў наш пастаянны чытач Славамір Кулеша з Семяноўкі (13 красавіка зусім выпадкова былі мы разам у той краме) ды на пошце наш ніўскі карэспандэнт Мікалай Варанецкі з Альхоўкі.

Як у кожнай „Ніве”, так і ў святочным яе нумары чытачы прачыталі рэпартажы, артыкулы і допісы. У ім было звыш дваццаці здымкаў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Пра бежанства пакаленнем пазней

Размова з Мікалаем ГАЎРЫЛЮКОМ, 1962 года нараджэння, родам з Ягаднік, што ў Старакорнінскім прыходзе, аўтарам мультымедыйнай працы пра сямейныя падзеі з бежанства.

**— Што падштурхнула Вас расказаць пра бежанскую гісторыю Вашай сям'і?**

— Калі ў сотую гадавіну бежанства, два гады таму, партал cerkiew.pl выйшаў з ініцыятывай ушанаваць тыя падзеі, а партал пра бежанства, які адкрыла Анэта Прымака-Онішк, аб'явіў конкурс на працу пра ўспаміны з таго часу, я рашыў далучыцца да гэтай ініцыятывы. Я падумаў, што варта такім чынам ушанаваць і замацаваць памяць пра маіх продкаў у нашчадкаў; мяне гэтая праблема з ходам часу стала ўсё больш хваляваць, а конкурс падштурхнуў мяне да канкрэтнага дзеяння. Захаваліся ў мяне колішнія дакументы і я рашыў стварыць мультымедыйны праект; калі б не той конкурс, то можа я збіраў бы тыя матэрыялы толькі сабе, а вось надарылася нагода абнародаваць іх шырэйшай аўдыторыі. Туды былі ўключаны генеалагічныя звесткі, захаваныя здымкі, мае расказы і маёй старэйшай сястры Анастасіі, якая найбольш запамятала з расказаў пра тое наша мінулае. Удалося стварыць, з дапамогай мастака-графіка, адмысловы дыск. Цяпер я той дыск распаўсюдзіў паміж сямейнікаў, каб усе мелі, каб памяталі. Бо гэтай тэмай найбольш зацікавіўся я, мая старэйшая сястра таксама запамятала бацькавы ўспаміны. У мяне пяцёра братоў і сясцёр, я з іх наймалодшы. Можа хто здзіўляцца, што мой тата быў у бежанстве — я ж аднасна малады. У 1945 годзе памерла ягоная першая жонка і ён годам пазней ажаніўся паўторна і я з гэтага другога сужонства.

Мой тата народжаны ў 1902 годзе і калі сям'я падалася ў бежанства, яму было трынаццаць гадоў. Памёр ён у 1993 годзе. А я шкадую, што мая цікавасць да ягоных успамінаў прабудзілася позна. Бо калі б чалавек у маладыя гады падумаў запісаць ягоныя ўспаміны, то была б вялікая справа. А тата любіў расказваць, расказваў цікава, але мяне тады цікавілі іншыя рэчы, на татавы расказы не вельмі звяртаў увагу: гаварыў, бо гаварыў... Усё ж такі нейкія эпізоды трымаліся ў памяці, але і яны, з ходам гадоў, выветрываюцца з тае памяці. Калі б быў у пару запісаў тыя расказы, то атрымаўся б знакаміты сюжэт, падмацаваны дакладнымі звесткамі. Бо я ж, так папраўдзе, не ведаў нават, колькі ў мяне было дзядзькоў і цётак. Падаўся я спярша ў старакорнінскую царкву, а адтуль у беластоцкі архіў, бо пасля ста гадоў прыходскія кнігі перадаюцца ў архіў.

**— А Вы не ведалі пра некаторых сямейнікаў?**

— Ведаў пра малодшых татавых братоў, пра Філіпа, Паўла і Захара. А было яшчэ трое — два татавы браты і сястра. Найстарэйшы татаў брат, Сямён, сямнаццацігадовы, калі збіраліся ў бежанства, заявіў, што паедзе з суседзямі, што выязджалі раней — каб было хутчэй. Мелі спаткацца ў Баранавічах, але ён недзе загінуў, ніхто не ведае дзе і як. Ехалі дзед з бабаю, дзед Кірыл захварэў у Расіі тыфам і памёр там у 1922 годзе. А сямейнікі былі там восем гадоў. Калі выязджалі, татаў брат Кальмінік меў дзесяць гадоў, брат Філіп меў сем, сястра Жасціна мела чатыры гады і Павел, якому споўніўся толькі год.

**— Жасціна — я ўпершыню чую такое імя...**

— Пра яе ў сямейных размовах не ўспаміналі, але я знайшоў яе ў метрыках. І мяне гэтае імя таксама здзівіла, але так запісана ў метрычных кнігах; тата пра яе ніколі не расказваў. Там, у бежанстве, у 1919 годзе, нарадзіўся яшчэ чарговы татаў брат — Захар. У Польшчу вярнуліся бабуля, тата і гэтыя тры малодшыя браты: Філіп, Павел і Захар. Я не ведаў, калі памёр мой дзед, але калі гартаў архіўныя дакументы пра камасацыю грунтаў нашай вёскі Ягаднікі, якая была праведзена ў 1936-1938 гадах, знайшоў паметку, што дзед памёр у 1922 годзе, яшчэ ў Расіі. І гэты запіс зусім выпадковы, бо дома ніхто не згадваў, у якім годзе дзед памёр.

**— А далёка былі ў бежанстве?**

— Іх спярша завезлі за Урал, але там сталі хварэць і яны пераехалі ў Пензенскую губерню, у вёску Новая Ялоўка Саранскага ўезда. Была гэта вялікая вёска, людзі там жылі заможна — у параўнанні з тымі ўмовамі, якія былі тут. Тут, для прыкладу, жалі збожжа сярпамі, а там ужо былі касілкі. Багацейшыя гаспадары мелі па дзве хаты, у адной жылі самі, а другая была для гасцей сям'і. Хаты былі з бярвенняў, а падлога была заслана свайго роду сукном, а ў нас жа быў адно голы ток або палавікі. Было там у звычаі стаўляць час ад часу суседу збан з малаком — і трэба было тое малако выпіць, бо яно сімвалізавала дар ад Бога. А вечарамі спявалі, на паасобныя галасы. Зімы былі там марозныя і снежныя; людзі хадзілі ў валёнках, але без галёшаў, бо было суха. Каб снег не засыпаў дарог, стаўлялі паабапал іх снапкі; асноўным збожжам была там пшаніца. Тата зараз пайшоў там у школу, Атэмарскае двухкласнае вучылішча, а пасля завяршэння навукі, паколькі не хапала там настаўнікаў, то стаў вучыць у школе.

**— А ці тут, да бежанства, Ваш тата хадзіў у школу?**

— Так, у Ягадніках былі такія курсы, народнае вучылішча, якое закончыў у 1914 годзе. А ў Расеі асветныя, яшчэ царскія ўлады, хацелі яго пасляць вучыцца далей, але бабуля не дазволіла, бо калі б стаў там вучыцца, то сям'і трэба было б там астацца.

Працавалі ў полі, у гаспадароў, у якіх было многа зямлі. На працу выязджалі за пятнаццаць кіламетраў, на тыдзень, у полі былі зямлянкі, а гаспадары давозілі ім харчаванне. Тата вельмі цёпла ўспамінаў той час. А калі настала рэвалюцыя, то ўсё адвярнулася на 180°. Былі там „белыя", былі „чырвоныя", а найгоршыя былі анархісты; апошнія маглі забіць кожнага, бо „чырвоныя" білі „белых", а „белыя" „чырвоных". Вось аднойчы ехалі анархісты і сталі страляць без папярэджання, тату ўдалося схавацца за кустоўем, яны падумалі, што забілі і паехалі далей — такім чынам тата астаўся ў жывых.

У той мясцовасці была царква і анархісты прыехалі па бацюшку, выцягнулі яго з царквы. Матушка стала прасіць, каб не білі, то адзін з іх шабляй засек матушку, а бацюшку застрэлілі.

**— Вярталіся адтуль поездам?**

— Поездам. У мяне ёсць дакументы, яшчэ з 1908 года, але пасведчаныя польскім прадстаўніцтвам у Нованікалаеўску, цяперашнім Новасібірску — мабыць гэта было патрэбнае каб атрымаць дазвол на выезд у Польшчу. Але пакуль да выезду, то дзед і тата захварэлі тыфам, дзед памёр, а тату ўдалося акрыяць. Праўдападобна памерла там і Жасціна, а пра Кальмініка нічога невядома.



■ Сям'я Гаўрылюкоў у канцы 1920-х гадоў: у цэнтры бацька спадара Мікалая Барыс з першай жонкай, збоку бабуля Параскева, а за жанчынамі дзядзькі Захар і Філіп (пад гальштукам); з левага боку здымка суседзі. (Фота з сямейнага фонду Мікалая Гаўрылюка)



Свидѣтельство

■ Пасведчанне Барыса Гаўрылюка з Атэмарскага вучылішча

**— Ці вядома, чаму сям'я рашыла вяртацца на радзіму: таму можа, што памёр дзед?..**

— Тата не хацеў вяртацца ў Польшчу, яму там добра было, уладкаваўся там на працу. А тут, у Польшчы, то ён нават мовы не ведаў. Вярнуліся таму, што бабуля вельмі тужыла, усё хацела „на родзіну"; вярнуліся ў 1923 годзе. Бабулі я не помню, бо памерла раней чым я нарадзіўся. Дзядзьку Філіпа помню, малы я яшчэ быў, як ён прыязджаў, у суконным шынялі і ботах-афіцэрках, з драўляным сундучком. Жыў ён у Кентшыне, не ажаніўся. Захар выехаў у Элк, там заснаваў сям'ю. А Павел пасяліўся ў Кленіках. Прыехаўшы, трэба было зарэгістравацца ў гміннай управе ў Орлі і ў павятовых установах у Бельску. Тата неўзабаве пасля прыезду, у 1924 годзе, прызвалі ў войска, служыў у Быдгашчы, цяпер я знайшоў у інтэрнэце звесткі пра ягоную тадышнюю вайсковую часць.

Дадам яшчэ цікавінку з роду маёй мамы: сям'я маёй мамы Надзеі, з Койлаў, мела ў 1939 годзе выехаць у Аргенціну, і калі б не ўспыхнула вайна, магчыма, што яна апынулася б там...

**— Дзякую за цікавыя ўспаміны.**

Размаўляў **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка для дзяцей і моладзі

## Чароўнае люстэрка, дыван і яблык
### (гуцульская казка)

Жыў-быў адзін кароль і меў ён трох сыноў. Урэшце прыйшла пара, каб яны ажаніліся. Ды атрымалася так, што ўсе яны закахаліся ў адну панну, але ні адзін з іх пра гэта не ведаў. Прыехалі яны ў сваты да той нявесты, зразумелі што здарылася і сталі паміж сабой сварыцца.

А панна кажа:

— Пайду замуж за таго, хто прынясе мне самы прыгожы і неабходны падарунак!

Асядлалі каралевічы коней і падаліся ў свет. Ехалі яны доўга ці каротка, ажно даехалі на канец свету. Сустрэў старэйшы брат на дарозе дзеда. Расказаў яму пра сваю бяду і прыгоды. А той стары, кажа:

— Не бядуй, князь! Вазьмі маё люстэрка. Калі захочаш ведаць, што з кім адбываецца, глянь і ўсё ўбачыш…

Падзякаваў каралевіч і павярнуў дамоў. А той дзед апынуўся ўжо на дарозе другога каралевіча. Спыніў яго і пытаецца:

— Куды ж так выправіўся?

Другі брат распавёў пра нешчаслівае каханне, пра варажнечу, якая ўспыхнула паміж братамі.

— Пачакай, — кажа дзед, — вазьмі мой дыван. Хопіць яго разаслаць і загадаць «нясі мяне туды і туды» ды ён занясе куды толькі схочаш.

Пакланіўся другі брат старому і павярнуў дамоў. Дзед таксама не драмаў, ён ужо апынуўся на дарозе наймалодшага каралевіча. Той таксама расказаў пра сямейную бяду.

— Хочаш, дапамагу табе, — кажа дзед, — вазьмі мой яблык. Ён мае аздараўляльную моц. Калі пабачыш, што нехта памірае, тады трэба даць гэты яблык і паміраючы вернецца да жыцця.

Узяў каралевіч яблык, нізка пакланіўся дзеду і вяртаецца назад. І вось пасля дзевяці дзён з'ехаліся браты ў адным месцы. Паказваюць адзін аднаму свае падарункі.

— Давайце, паглядзім у люстра на нашу панну, — прапанаваў адзін брат, — што яна робіць, ці нас выглядае.

Паглядзелі браты ў люстра і жахнуліся. Яны пабачылі, што іх каханая памірае. Заплакалі каралевічы, засумавалі. Ажно сярэдні брат рашыў:

— Сядайце на мой дыван. Можа паспеем завезці ёй цудоўны яблык! Дапаможам!

Як сказалі, так і зрабілі. Прыляцелі яны на двор панны ды прыклалі да яе вуснаў яблык. Дзяўчына ажыла, павесялела. Тады браты паказалі ёй свае падарункі. А яна і без гэтага ўжо ведала, каму адасць сваё сэрца.

— Я абыдуся без люстэрка і чарадзейнага дывана, а без такога яблыка памру. Ён неабходны дзеля майго здароўя. Вось той, то прынёс мне гэты падарунак, будзе маім мужам.

І зладзілі яны вяселле.

**(пераклад з украінскай мовы Ганны Кандрацюк)**



Фота Міры Лукшы



Гжэгаж Касдэпке на юбілеі беластоцкай «чацвёркі»

Фота Ганны Кандрацюк

## Гжэгаж Касдэпке
### з беластоцкай «чацвёркі»

Цяжка ўявіць Міжнародны кірмаш кніжкі без Гжэгажа Касдэпке. Прыезду пісьменніка заўсёды чакаюць сотні дзетак, захопленых яго кніжкамі. Яны выстойваюць у доўгіх чэргах па аўтограф культавых кніжак, такіх як «Кацпэрыяда», «Вялікі выбух» ці «Я не хачу быць князёўнай». Яшчэ больш захапляюць размовы з аўтарам, які ўмее знайсці слова для кожнага дзіцяці. Не ўсе ведаюць, што аўтар культавых кніжак нарадзіўся ў Беластоку. І што хадзіў ён у беластоцкую «чацвёрку», у тую ж школу, дзе сёння выкладаецца беларуская мова.

Для аматараў беларускага слова мае ён добрую навіну. У наступным годзе выйдзе беларускі пераклад *A ja nie chcę być księżniczką,* які зробіць Міра Лукша. **Зорка**

Адрыян ДАНІЛЮК,
КШ у Міхалове

## Яда

«КФС»
— вельмі добры рэстаран,
Смачная курацiна там.
Можаш есці, што хочаш.
Можаш колу выпіць там,
Гэта добры рэстаран.

Аляксандра ЛАШЧЭЎСКАЯ
Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Імяніны мамы

Ляжыць клей на падлозе,
а нажніцы на стале.
Яны — добрыя сябры.
Цэлыя дні гавораць
аб прыродзе, аб жыцці,
аб любові да дзяцей...
Яны глядзяць — Нінка ідзе,
у руцэ — фламастар.
Клей падняла,
ліст паперы ўзяла
і рысаваць пачала.
Рысавала, рысавала,
сіл яна не шкадавала.
Сёння мамы імяніны.
Засталіся тры гадзіны!
Нінка цяжка працавала,
віншаванні рысавала.
Будзе мамка шчаслівая!

## УВАГА КОНКУРС! № 47-16

Конь не просіць сена вехаць,
на ім можна верхам ехаць.
Мільгануць два колы-ногі
І імчаць ускрай дарогі.
Р....

(У. Мацвеенка)

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 14 мая 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 14-17: запалка. Узнагароды, беларускія кніжкі, выйгралі Анна Кендысь з КШ № 1 у Гайнаўцы і Тамаш Ваўранюк з Нарвы. Віншуем!**

# Прышчапіць добры ўзор!

Як гэта магчыма, што дашкольнікі, якія вывучаюць мову толькі пры нагодзе мастацкіх праектаў, умеюць больш граматна і ўнушальна выступіць за гімназістаў?

Магчыма, шмат у чым дапамагае магія мастацтва. Аднак, каб нешта такое няўлоўнае здарылася, трэба надта глыбока ўвайсці ў настрой, эстэтыку, у сваю ролю.

— Трэба таксама каб дзеці безупынна думалі, — кажа настаўніца і інструктар Іаанна Хількевіч, — каб яны разумелі што да чаго ідзе і што здарыцца.

Мова пра спектакль «Каток — залаты лабок», з якім на Тэатральным аглядзе выступілі дзеці з Непублічнага праваслаўнага прадшколля ў Бельску-Падляшскім. Іх пастаноўка была простай, жывой і аднachасова казачнай. Першыя ролі належалі тут вядучым Зузі Міранкевіч і Касі Дэмянюк.


Фота Ганны Кандрацюк

— Мы звяртаем увагу на вымаўленне, — кажа спадарыня Іаанна, — бо хочам прышчапіць дзеткам добры ўзор, каб дзеці акуратна засвойвалі словы, каб іх не блыталі, каб яны выразна гучалі ў спектаклі, песнях і вершах. Не менш важнае сцэнічнае афармленне. У народнай казцы яно павінна быць простае і аднachасова сімвалічнае. Неабходныя таксама спевы і танцы, бо яны мацуюць настрой. Мы пакарысталіся дыялогамі з казкі, нічога ад сябе не дабавілі. Адно прыдумалі заканчэнне — а яно гучыць як народнае развітанне, у якім выказаны пажаданні ўсім гледачам.

Бельскі спектакль можна палічыць таксама «экалагічным». Казка апавядае пра мудрасць дрэў, у канкрэтнасці мудрасць старога дуба. Яго ахоўвае чарадзейны «каток — залаты лабок». Звярок безупынна адводзіць ад намеру дзеда, які па падгаворванні жонкі хоча ссячы дрэва. Узамен за стрыманасць звярок здзяйсняе пажаданні дзеда: дае яму муку, сала, соль.

Дзякуючы дамове і зразуменню ўсе шчаслівыя. Гэта таму, што нашы «дзед ды бабка» не просяць палацаў і каралеўскіх званняў, а толькі неабходныя для жыцця харчы і здаровечка.

А якія пажаданні сустрэнуць нас у канцы спектакля?

— Каб усе людзі жылі багата і ў здароўі, каб у іх хату заўсёды заходзілі госці, з якімі можна павесяліцца, паспяваць і патанцаваць, — кажа Іаанна Хількевіч.

У бельскай пастаноўцы гэтая роля прыпадае музычна-танцавальнаму гурту «Лянок». Іх каларытнае выступленне наклікалі прыгожыя мары. Вось аказалася, што расце ў нас новая «Лявоніха», якую, нягледзячы на мноства калектываў, ніхто не ў змозе заступіць.

**Зорка**

# Вершы Віктара Шведа



## Сяброўства бацькоў

Раніцай пры снеданні сядзяць
Бацькі з малым сынком Міколам.
— Ці вы раптам сталі сябраваць
З маёй настаўніцай у школе?

Сказала, каб абавязкова
У заўтрашні дзень па занятках
Прыйшлі да яе на размову
Мая матуля разам з таткам.

## Колькі выдатнікаў у класе?

— Скажы мне, даражэнькі Вася,
Колькі выдатнікаў у класе?
— Апрача мяне, скажу шчыра,
У нас выдатнікаў чатыры.

— І ты выдатнік? Божа збаў!
Як ты ў выдатнікі папаў?
— Я ж сказаў табе раней:
Што чатыры без мяне.

# Беларуская мова ў польскім садку!


Клаўдзія і дзеткі

Разам з сяброўкамі Зосяй, Аняй, Наталькай і спадарыняй Альжбетай Рудкоўскай мы наведалі дзіцячы садок № 64 у Беластоку. Мы прачыталі дзеткам беларускую казку і пазнаёмілі іх з алфавітам. Нашай галоўнай мэтай было паказаць дзецям, што беларуская мова для нас родная, што мы вывучаем яе з задавальненнем і не лічым замежнай мовай. Мы паказалі нашым малодшым сябрам беларускія літары з малюнкамі. Дзеткам найбольш спадабаліся літаркі «д» — (дом) і «ж» (жук). Далей мы пачалі супольна ствараць «слоўнік», у які патрапілі найважнейшыя словы для зразумення казкі. Пасля Зося пачала чытаць «Курачку-рабку». Пры нашай дапамозе дзеці расказалі змест казкі і ахвотна паўтаралі новыя словы.

Спадарыня Рудкоўская падрыхтавала кніжкі для размалявання. Малюнкі дзеці прыдумвалі самастойна і гэта былі ілюстрацыі казкі.

Гульня атрымалася вельмі прыемнай, дзеці проста загарэліся да дзеяння. Маем надзею, што ім спадабаўся наш свет, наша мова. На канец мы зрабілі супольны здымак і паабяцалі нашым малодшым сябрам, што іх яшчэ наведаем.

**Клаўдзія ГАЛІНСКАЯ, Гімназія № 7 у Беластоку**

# Польска-беларуская крыжаванка № 18-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 14-17:**

Шлях, гром, ар, дом, як, вярба, вясло, ял, Лі, знак, на, сук, лотаць. Яблыня, лак, яр, пол, вяз, вясна, горла, на, бок, ода, Ясь, мо, Ян, маланка.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Іаанна Нікіцюк**, **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Марта Петручук**, **Аліўка Порац** з Нарвы, **Эмілія Лянкевіч** з Шудзялава, **Мартына Куклік** з Бабік, **Марыя Варанчук** з Арэшкава, **Адрыян Данілюк** з Міхалова, **Магда Люнда**, **Наталля Гайдук** з КШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!

Wyspa
i...
Upiększenie
Kalina
Stolin
Język
Niania
Cytryna
Winda
Ola
Żłobek
Pingwin
Ania
Szansa
Szafa
Dwa
Ty
Badacz, śledczy




**Юлія Маргарыта БЯГАНСКАЯ**
Гайнаўскі белліцэй

* * *

*Змучаны, збалелы*
*Іду я да сонца,*
*Да маіх мар...*

*Не! Гэта бляск*
*Катаўскага тапара,*
*Гэта мая кроў*
*І мары!..*

*Ужо кінулі мяне,*
*Каб не бачыць гэтых вачэй,*
*Якія так шмат гадоў*
*Бачылі вачыма сэрца.*

*Ужо пранізлівы свіст тапара*
*Спявае над вухам,*
*Божа Літасцівы,*
*Пабагасла...!*

## Пажарнік

*Быў я нядаўна*
*ў сваім доме.*
*Бачыў я тады*
*пурпуровую кветку.*
*Ты калісьці такую ж самую*
*мела ў валасах,*
*доўгіх, чорных,*
*як цяпер мае мары.*
*Бачу я... і ў іх Цябе,*
*Тваe вочы поўныя слёз,*
*Тваe вусны адчыняюцца да крыку,*
*Твой твар пераліваецца колерамі агню.*

* * *

*І бачу я свае рукі,*
*Якія няздольныя да ратунку.*
*Я быў пажарнікам,*
*Я ўмеў выцягваць людзей*
*З агню пякельнага!*
*А тады?*
*Я не змог*
*...*
*Мілая сястрычка мая,*
*Прабач мне, што я*
*Жыву, а Ты ў гэты дзень...*
*Згарэла на папялішчы*
*Нашага дома...*

## Лічылка

*«Адзін, два, тры!»*
*Здзіўленне і такі страх.*
*«Чатыры, пяць, шэсць».*
*Акуляры зляцелі з носа.*
*«Сем, восем, дзевяць».*
*Ногі ўгінаюцца міжвольна.*
*«Дзесяць, адзінаццаць, дванаццаць».*
*Шкло разбіваецца на зямлі.*
*«Трынаццаць!»*
*Боль замыкае мае вочы.*



**Юлія Маргарыта БЯГАНСКАЯ**
Гайнаўскі белліцэй

## Споведзь забойцы

Мама, я мушу табе гэта сказаць. Я стала забойцам. Гэта было тры гады таму, калі я стрэліла ў свайго каханага, а пасля стрэліла таксама ў самую сябе. Ён памёр, а мне не дазволілі памерці і зрабілі забойцам... Уставілі мне электроннае вока, каб я заўсёды вельмі дакладна страляла. Яны мне дапамаглі, мама! Я не хацела вяртацца дадому і таму засталася з імі, і яны мне дапамаглі...

Да гэтай пары я забіла шэсцьдзясят шэсць чалавек. А цяпер стаю перад домам суддзі. Гэта ён загадаў мне, каб я застрэліла Роберта, гэта ён быў маім шэфам.

Мама, ты сама мяне выхавала, сама-саменькая, мы сабе жылі ў такой маленькай, лясной хатцы, былі мы толькі дзве... Я ніколі не бачыла твару майго бацькі і мела не пабачыць яго да канца жыцця.

Суддзя здурэў, ён думаў, што лялька з фарфору з'яўляецца яго дачкой, а яна ж памерла. Гады ўжо мінулі з той пары, калі яна ўтапілася ў цёмным возеры. Гэта я з'яўляюся яго адзінай дачкой, праўда, мама? Гэта праўда?

Тата! Прыйшла пара, каб ты паплаціўся за свае грахі. Я падпаліла тваю хату. Што ты цяпер зробіш? Ну, што?.. Маеш апошні шанц на тое, каб ўратаваць сваё нявартае жыццё, ты можаш аддаць мне ўвесь свой маёнтак.

Але ж ведаеш, мама, ён сказаў, што камусьці такому як я, такой няўдзячнай асобе, ён ніколі не аддасць сваіх грошай. Як ты магла пакахаць кагосьці такога? Як... як я магу быць яго дачкой? Як такое магло здарыцца?

Тата! Па тваёй прычыне я стала пярэваратнем, з-за цябе я забіваю людзей, з-за цябе, з-за цябе!

Цяпер я бачу яго, мама, з маім пісталетам паміж яго вачыма. Ён ашукаў многа людзей, па яго прычыне пакуталі дзеці.

Так што... добры дзень і да пабачэння, табе — пан суда ўсякага. Ты ўжо не маеш ніякага жыцця перад сабою. Стань і глянь мне ў вочы, стань як мужчына, які не баіцца смерці, які будзе змагацца за сваё нявартае жыццё.

Ах, мама...

Ці кожны павінен атрымаць другі шанц, скажы, сапраўды — кожны? Аднак, я ведаю, ён не заслужыў. Смерць за смерць, вока за вока, зуб за зуб! Мы абедзве жылі разам у адным пакоі, не мелі чаго ў рот укінуць, у адной кашулі два тыдні хадзілі... А ён меў усё, хаця ты была яго каханай, хаця я была яго дачкой, не атрымалі мы ад яго нічога.

Прыйшла пара на тое, каб гэта ўсё закончыць. Кахаю цябе, мама. Да пабачэння!



**Патрыцыя КАРЛАЎ**
ІІ Агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку

* * *

*Мы жорсткія*
*На думкі код існуем*
*Увесь эфір запаўняем сабой*
*Працягваем безупынна*
*З бязгучным „пачні!”*
*На высунутых вуснах*
*Унікаем паглядаў наўмысна*
*Ад страху перад ісцінай*
*Тэсціруем сасмяглую зорку цела*
*Перасоўваем мяжу рашэнняў*

## Кусочкі сусвету

*Як ранішняя кава на марозе*
*Прыходзіш і адыходзіш*
*Не ўспею нагрэць рук*

*

*Чуеш птушак спеў*
*Стракаталі: адыдзеш!*
*Я не верыла, што ўжо восень*

*

*Я чакала лістападу*
*Нейкага знаку*
*А лісточкі ўпалі заўчасна*

*

*І не надыдзе восень*
*І не прыйдзе снег*
*А Ты пройдзеш*

* * *

*Балюча ўдарае душу бізун*
*Скручаны з тваіх думак*
*Як паскладаць словы і ўчынкі*
*Каб яны мелі нейкі сэнс*
*Як можна быць разарваным*
*Чуючы біццё сэрца іншага чалавека*

# Слоўныя масты




Як пазнаёміць словам тых, каго разлучае мяжа? Папольску была выдадзена вялікая анталогія беларускай паэзіі XV-XX стагоддзяў «Не хіліў галаву перад сілай» («**Nie chyliłem czoła przed mocą**», Калегія Усходняй Еўропы, 2008). У гэтае грунтоўнае выданне ўвайшлі лепшыя вершы лепшых паэтаў, якія былі створаныя на зямлі сучаснай Беларусі цягам пяцісот гадоў. Вершы аўтараў, пісаныя па-беларуску, на лаціне і па-польску ў XV- XX стагоддзях віцэ-прэзідэнт польскага ПЭН-клуба Адам Паморскі прапанаваў акрэсліваць літаратурай беларускай традыцыі і супольным набыткам абодвух народаў старой Рэчы Паспалітай — беларускага і польскага. Галоўная ж задача гэтага выдання — азнаёміць польскага чытача з літаратурай беларусаў, пра якую ён часам мае вельмі цьмянае ўяўленне. Уклалі анталогію Лявон Баршчэўскі з беларускага боку, а з польскага — Адам Паморскі і вялікая група перакладчыкаў. Адам Паморскі казаў: „Цягам апошніх 20 гадоў выканалі мы вялікую працу ў справе вяртання ўласцівай прапорцыі ўзаемных польска-беларускіх літаратурных адносін. Не першы раз на гэтай тэрыторыі абрынаюцца імперыі, і стаіць перад намі адно і тое ж пытанне — як гэтыя народы павінны суіснаваць і разумець адзін аднаго. Акрамя вялікай анталогіі, група перакладчыкаў таксама выпусціла да яе два дадаткі — зборнік маладых беларускіх паэтаў і тых аўтараў, якія не ўвайшлі ў вялікую анталогію. Усё гэта рабілася за немалыя грошы, калі прытрапіўся больш кан'юнктурны момант беларускіх спраў, забываючы пра выданні беларускіх аўтараў, якія выдаваліся часта і на свежа, улічваючы і класіку, пры дзяржаўнай падтрымцы, у былыя, «слушна забытыя», часы. Падобным велічным выданнем (хаця толькі беларускай паэзіі другой паловы XX стагоддзя), у гэты раз на рускай і беларускай мовах, у серыі «Ад веку ў век», была *Анталогія беларускай паэзіі* (2003), укладзеная Алесем Каждубам і Любай Турбінай. Перш за ўсё яна давала магчымасць азнаёміцца з творчасцю беларускіх паэтаў пасляваеннага пакалення, тых, без каго нельга ўявіць сабе беларускую паэзію: Уладзіміра Караткевіча, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Міхася Стральцова, Дануты Бічэль, Анатоля Грачанікава, Веры Вярбы, Таісы Бондар, Вольгі Іпатавай, Уладзіміра Някляева, Алеся Разанава, Яўгеніі Янішчыц... Укладальнікі імкнуліся даць найбольш поўную карціну сучаснай беларускай паэзіі. Характэрнай рысай кнігі з'яўляецца тое, што тэкст кожнага верша надрукаваны на дзвюх мовах: на мове арыгінала і побач яго пераклад на рускую мову. У кнізе больш за 320 вершаў 108 беларускіх паэтаў. Рускамоўны чытач атрымаў магчымасць пачуць, адчуць, зразумець паэтычны настрой беларусаў. Для чытачоў-славян найбольш цікавым з'яўляецца магчымасць параўнаць пераклад з арыгіналам; паспрабаваць пачуць натуральнае гучанне верша; адчуць мелодыку беларускай мовы... Для беларусаў-расіян, якія, на жаль, у большасці пакрысе забываюць родную мову, гэта яшчэ і высокамастацкі падручнік-дапаможнік, напамін родных слоў.

Аляксандр Наўроцкі з Варшавы, філолаг, паэт, перакладчык, які з 1992 года з'яўляецца выдаўцом (уласнае кніжнае выдавецтва IBiS), а з 1998 г. — галоўным рэдактарам часопіса «Poezja dzisiaj» («Паэзія сёння»), выдае, галоўным чынам, сучасную літаратуру, польскую і замежную; у тым ліку былі выдадзеныя анталогіі грэцкай, іспанскай, венгерскай, фінскай, рускай, украінскай паэзіі. Быў ён таксама рэдактарам-укладальнікам і выдаўцом трохтомнага збору паэзіі «Польская паэзія — анталогія тысячагоддзя» (275 паэтаў: ад «Багародзіцы» да нашых дзён, 1800 стар.), сарэдактарам двухмоўнай анталогіі польскай паэзіі, выдадзенай у Расіі ў серыі «З веку ў век», якая ўключае паэтычныя анталогіі 14 славянскіх краін. З 2001 года А. Наўроцкі з'яўляецца арганізатарам Міжнародных




дзён паэзіі пад патранатам ЮНЕСКА, і Фестывалю славянскай паэзіі. Ад пяці гадоў у «Паэзіі сёння» (якую выдае без дзяржаўнай падтрымкі), прадстаўляе творчасць беларускіх аўтараў, таксама беластоцкіх, якіх запрашае на святы паэзіі ў Варшаву і за мяжу. У фестывалі славянскай паэзіі прынялі ўдзел, між іншым, паэты Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" — Віктар Швед, Міра Лукша, Віктар Стахвюк, Лідзія Маліноўская, Ян Чыквін.

— На фоне міжнароднай гронкі паэтаў выпалі яны добра, рэкамендуючы сваю творчасць без нейкіх комплексаў і з гонарам адзначаючы сваё падляшска-беларускае паходжанне, — успамінаў А. Наўроцкі. — Мяне захапляе перш за ўсё іхняя ўнутраная патрэба пісання, выказвання такім чынам сваіх найглыбейшых думак і пачуццяў. Беларускія творцы расказваюць аб ролі, якую ў іх жыцці адыграла праца над захаваннем і развоем беларускай мовы. Гэта дзясяткі публікацый, сотні артыкулаў і сустрэч, шмат гадоў прысвечаных творчай працы, публіцыстычнага і педагагічнага старання прыносяць і сёння эфекты, паколькі беларуская паэзія займае штораз больш значнае месца ў еўрапейская творчасці. „Усход гэта „душа чалавека", а Захад — „вытворчая машына". Калі славяне спяваюць, усе плачуць, захад спявае дасканала, але тэхнічна, бо не стае ім сэрца". От, славяне часам любяць пашкадаваць над сабою, што штосьці ім не ўдаецца, а на Захадзе трэба ўсміхацца, быць задаволеным, нават ляжаўшы на аперацыйным стале...

«Паэзія сёння» і «Ібіс» выдалі, між іншым, кнігу перакладаў на польскую мову беларускіх аўтараў «Wiatr od Niemna», пачынаючы з XIX стагоддзя да наймалодшага пакалення і «Размовы з паэзіяй» — вершы 13 сучасных польскіх паэтаў. Анталогія беларускай паэзіі «Wiatr od Niemna» змяшчае пераклады вершаў ад Францішка Багушэвіча да Віктара Жыбуля ў трансляцыі Альжбеты Фэліксяк, Яна Гушчы, Францішка Кабрынчука, Ежы Літвінюка, Яна Максімюка, Адама Паморскага, Чэслава Сэнюха, Віктара Варашыльскага, Віктара Шведа і Міры Лукшы пад рэдакцыяй Міры Лукшы і Аляксандра Наўроцкага (выданне пры супрацоўніцтве Дома-музея А. Міцкевіча ў Навагрудку). «Размовы з паэзіяй» — пераклады твораў трынаццаці польскіх сучасных паэтаў на беларускую мову, у тым ліку Яна Леанчука і Міры Лукшы з Беластока ды Адама Сяменчыка з Гарадка.У часопісе «Паэзія сёння» друкаваліся пераклады між іншым Віктара Шведа, Міхася Андрасюка, Лідзіі Маліноўскай, Яна Чыквіна, Міры Лукшы, Віктара Стахвюка і паэтаў з Беларусі. Беластоцкія аўтары прымалі ўдзел таксама ў прэзентацыі двухмоўнай анталогіі 11 польскіх паэтаў і 10 з Санкт-Пецярбурга «Масты», таксама «Масты» варшаўска-маскоўска-разанскія, у перакладзе між іншым Міры Лукшы, а сёлета — Масты гродзенска-варшаўскія, пры небагатай, але ўсё ж, шчырай і канкрэтнай падтрымцы. Суарганізатарам фестывалю славянскай паэзіі і Сусветных дзён паэзіі ЮНЕСКА ад пяці гадоў з'яўляецца Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве, запрашаючы беларускіх аўтараў і мастакоў, прадстаўляючы выставы, напрыклад на сценах Музея літаратуры імя Адама Міцкевіча ў Варшаве апынулася багатая выстаўка прысвечаная «Дзядам» Адама Міцкевіча, падрыхтаваная Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры. Сёлета Сусветныя дні ЮНЕСКА былі перш за ўсё «беларускімі днямі», з народнай і сучаснай песняй у выкананні Алеся Свірскага і Людмілы Ладуцькі з «Вербіцы».

Масты «**Гродна — Варшава — Warszawa — Grodno**» — самае новае выданне рэдактара Аляксандра Наўроцкага. «Двухбаковы» квадратны, прыгожа афармлены зборнік твораў дваццацёх — па дзесяць аўтараў з Польшчы і па дзесяць аўтараў з Гродзеншчыны — выбраных паэтаў, з невялікімі змястоўнымі нататкамі пра іх жыццёвы і творчы шлях, з'яўляецца другой падборкай такога тыпу, выдадзенага без датацый, на высокім эдытарскім узроўні, для беларускага і польскага чытача. Сярод аўтараў з Польшчы — сам рэдактар Аляксандр Наўроцкі, Барбара Юркоўская, Яраслаў Кляйноцкі (дырэктар Музея літаратуры, паэт «шасцідзясятнік»), Анна Чахароўская, Бенедыктт Козел, Ян Рыхнер, Іаанна Каліноўская з Італіі ды Пётр Кас'яс і Рэната Цыган (Вялікабрытанія) ды як асаблівы «мост» — Міра Лукша з Беласточчыны, якая з'яўляецца перакладчыцай твораў беларускіх аўтараў — Пятра Сямінскага, Браніслава Ермашкевіча, Тамары Мазур, Мар'яна Дуксы, Алены Руцкай, Алы Клемянок, а таксама Георгія Кісялёва, Людмілы Шаўчэнкі і Дзмітрыя Радзівончыка (па-руску) ды Людмілы Кебіч, якая зрабіла выбар аўтараў і твораў да беларускай часткі. Перастваралі польскія творы ў беларушчыну таксама аўтары — Мар'ян Дукса, Людміла Кебіч, Дзмітры Радзівончык, Ганна Скаржынская, і маладыя перакладчыкі — Руслан Казлоўскі, Аліна Сабуць. Сярод вершаў — таксама творы прысвечаныя нашым тутэйшым сучасным творчым «мастам» — як верш «Васількі» Людмілы Кебіч, напісаны Віктару Шведу, вершы прысвечаныя Адаму Міцкевічу, Цётцы, Элізе Ажэшка, Чэславу Немэну, месцам — «мастам» стагоддзям гісторыі, такім як Вільня, рака Нёман.

Другая свежая «мастовая» кніга, выдадзеная ў Брэсце — «Сучасная польская паэзія ў перакладах берасцейцаў» — таксама з добрай рукі Аляксандра Наўроцкага. Сярод аўтараў, апрача А. Наўроцкага — Пётр Кас'яс і Аляксей Врубель (Вялікабрытанія), Стэфан Жагель, Мілаш Каміль Манастырскі, Бенедыкт Козел, Яраслаў Кляйноцкі, Барбара Юркоўская, Ян Рыхнер, Ежы Парушэўскі і «мост» Міра Лукша, а перакладвалі аўтараў з Польшчы Анатоль Шушко, Расціслаў Бензярук і Анатоль Крэйдзіч, самі таксама паэты. Укладальнік Анатоль Крэйдзіч адзначаў наступнае:

— Здавалася б, усяго 11 аўтараў — магчыма, толькі каля аднаго адсотка ад колькасці майстроў прыгожага пісьменства ў Польшчы. Але гэты аўтары ўнікальныя, яны — своеасаблівае ўвасабленне ўсёй сучаснай польскай паэзіі, яе сэрцавіна і яе твар. Якія ж яны, нашы суседзі, у сваім паэтычным выяўленні? Як для мяне асабіста, то настолькі родныя, бо мы на генетычным узроўні злітыя ў адзінае пісьменнікамі мінулых эпох, а найперш беларусам (ліцьвінам), які пісаў па-польску, Адамам Міцкевічам, настолькі і адчужаненыя агромністым мурам выхавання ў розных культурных асяроддзях... Нам трэба вывучаць-спазнаваць адно аднаго. У паэзіі, бадай, найперш. Гэта — збліжэнне, разуменне, пачуцці, магнетызм, развіццё цёплых стасункаў паміж творцамі і, як найважнейшая місія такога супрацоўніцтва — яднанне народаў.

**(лук)**

# Засталіся адно ўспаміны

Нядзеля, 23 красавіка. За акном халоднае пераменнае надвор'е. Як у калейдаскопе — хмары, сонца, дождж са снегам, град... Як гэта ў прымаўцы кажуць: «Kwiecień plecień, bo przeplata trochę zimy, trochę lata» (падобны Вялікдзень быў). Што затым застаецца адзінокаму, прыхварэўшаму пенсіянеру? Толькі глядзець праз акно на апусцелую вуліцу ды ўспамінаць мінулае. А ёсць аб чым паўспамінаць. Маладосць, грамадская дзейнасць у маладзёжных арганізацыях, пачаткі прафесійнай працы на штаце культурна-асветнага інструктара ў Гайнаўскім аддзеле БГКТ, вандроўкі з канцэртамі самадзейнікаў, затым сямігадовае бадзянне з кінаперасоўкай па Гайнаўшчыне і Бельшчыне. Калі б раней пачаў я рабіць запіскі для свайго летапісу, як гэта зараз раблю ад дваццаці двух гадоў, дык можна было б зрабіць з яго шматсерыйны фільм або напісаць раман.

Самым багатым перыядам у сваёй біяграфіі лічу працу ў Ваяводскім праўленні кіно на пасадзе кіраўніка кінаперасоўкі. На працу паступіў я 1 лістапада 1962 г., а зышоў 5 чэрвеня 1969 г. Вось паглядаю на пажаўцелую картку з запісам: «Маршрут кінаперасоўкі BR-9 (Беластоцкае рухомае) на красавік1964 года». Сведка мінулага, які заблытаўся ў дамашнім архіве. Пяцьдзясят два гады. Больш за палову стагоддзя таму назад. Гісторыя. Як пражывала насельніцтва ў беларускіх вёсках у шасцідзясятыя гады, чым займаліся сяляне? Як квітнела культурна-асветная праца? Паспрабую зараз падняць заслону таямніцы мінулага пяцідзесяцідвухгадовай даўнасці.

Вось згаданы маршрут з красавіка 1964 года. Першага чысла дэманстравалі кінасеансы ў школе (ранішнік для дзетак) у Пашкоўшчыне, затым у чарговыя дні наведалі Маліннікі, Сакі, Дабрываду, Кузаву, Дашы, Палічну, Дубічы-Царкоўныя, Вітава, Арэшкава, Тэрамісکі, Курашава, Янова, Пасынкі, Зубава, Локніцу, Пілікі, Кнарыды, Мокрае, Дубяжын, Малочкі, Паўлы, Цялушкі. На спіску вёсак, якія абслугоўвала наша кінаперасоўка, зьяшчалася першапачаткова больш за пяцьдзясят мясцовасцей. Паколькі нам вызначана было працаваць па чарзе дваццаць тры дні штомесяц, дык у кожную мясцовасць павінны мы былі заязджаць кожны другі месяц. Але кіраўнікі кінаперасовак карысталіся прывілеем пісаць свае маршруты паводле прынцыпу прысутнасці гледачоў на кінасеансах. Затым «лепшыя» сёлы заносіліся ў штомесячны маршрут, а вёскі, дзе менш збіралася публікі, кінаперасоўка наведвала кожны другі або і трэці месяц. Наша загадчыца старшая інспектар пані Гедройц дазваляла на гэта, адно казала: «Рабіце так, каб людзі не пісалі скаргаў, што іх прамінаем».

Кінасеансы дэманстравалі мы ў асноўным у школьных залах або ў святліцах, дзе такія знаходзіліся. У шматлікіх сёлах не было электратоку. Карысталіся затым сваім агрэгатам. Прыпамінаю, што ў пачатках 1962 года току не было ў Іванках-Рагозах, Ласінцы, Будах, Тэрамісках, Дабрывадзе, Курашаве на Гайнаўшчыне ды ў Кнарыдах, Мокрым, Дубяжыне, Малочках на Бельшчыне. У Малочках святліца змяшчалася ў былым кааператыўным збожжавым свіронку ў полі. Цікавай была гэтая праца, асабліва для кавалераў. Штодзень сустрэча з іншай публікай, маладымі дзяўчатамі і хлопцамі. Кіношнікаў вельмі паважалі. Запрашалі на начлег ды пачастунак. У нашай брыгадзе з трох чалавек шафёр і кінаапаратар былі жанатымі. Адно я быў адзінокі. Затым кампаньёны рашылі мяне ажаніць. Сваталі дзяўчат амаль у кожнай вёсцы. Мне аднак не ў думцы было абводзіцца сям'ёю. Паводзіў я сябе паводле прымаўкі «Гуляй братка, пакуль лятка!» А мне было тады адно дваццаць два гады.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК



## Белавежскія зубры

Ранкам 12 красавіка праз шашу Бельск-Падляшскі — Кляшчэлі прайшоў табун з дваццаці сямі зуброў і зайшоў у лясок «Кліны» паміж Маліннікамі і Рыгораўцамі. Незвычайнае здарэнне зафіксаваў на здымках Веслаў Калішук, а на фейсбуку інфармацыю змясціў Марк Карнілюк. Паводле згаданага запісу звярына ўзлескам падалася ў напрамку Залешан. Зубры, угледзеўшы фатографа, сфармавалі шчыльны абаронны круг, захаваўшы ў ім малады зубранят. У канцы сакавіка, едучы ў Гайнаўку на аўтамабілі з дачкою, не даязджаючы да скрыжавання дарог Ягаднікі — Пасечнікі-Вялікія, прыкмецілі мы на пасеяных палетках двух зуброў. Дачка зрабіла здымкі. Значыцца, што лясныя нетры Белавежскай пушчы, у якіх вядзецца высечка дрэў па апошнім спрыяльным дрывасекам законе міністра Шышкі, пагражаюць звярыне, якая шукае аптымальна спакойнага і прыязнага наваколля.

(ус)




Беларусы ўжо два дзясяткі гадоў пазбаўлены магчымасці выбіраць уладу. Тыя электаральныя кампаніі, што праходзяць у краіне, з выбарамі маюць толькі знешняе падабенства. Цікава, што паспаліты люд гэта выдатна разумее, але неяк змяняць тую сістэму, што склалася, ніяк не хоча. Маўляў, усё роўна ўсё застанецца па-ранейшаму. У выніку атрымліваецца, што беларуская ўлада жыве сабе і насельніцтва — сабе, нават не беручы на сябе абавязку задумацца, а хто ж гэтую ўладу ўтрымлівае.

Але не ўсе ў Беларусі ўспрымаюць рэчаіснасць як большасць тамтэйшага люду. Ёсць і тыя наіўныя летуценнікі, што мяркуюць, нібыта яны ў стане паўплываць на тых, каго па сутнасці прызначылі дэпутатамі. І некаторыя з іх нават запусцілі сёлета ў Сусветным павуцінні цікавы сайт, які мае назву „Выбірай.by". Месціцца дадзеная інтэрнэтбачына па адрасе **http://vybiraj.by** і нечым нагадвае сайт для дзяцей. Такое ўражанне ствараецца, калі глядзіш на звыклыя для дзіцячых карцінак каляровую гаму і лагічныя пазначэнні.

«Грамадская платформа „Выбірай.by" створана ў 2017 годзе аднадумцамі, якім надакучыла, што пра дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў чутно толькі падчас выбарчых кампаній, а ад выбараў да выбараў — цішыня. Нам надакучыла, што дэпутаты з заробкам амаль у 1000 у.е. і шматлікімі сацыяльнымі гарантыямі ды палёгкамі гэтыя грошы (нашыя грошы!) не адпрацоўваюць — напрыклад, дэпутаты папярэдняга склікання Палаты прадстаўнікоў ініцыявалі толькі 3 (тры, Карл!) законы за 4 гады працы. Нам надакучыла, што шматлікія кандыдаты, якія вылучаліся самастойна ці ад палітычных структур на парламенцкіх выбарах, аднак не прайшлі ў парламент, пасля сканчэння выбараў рэзка забываюцца на свае абяцанні працаваць з выбарцамі ў сваіх акругах. І таму мы прапануем платформу, якая дапаможа афіцыйным дэпутатам і альтэрнатыўным кандыдатам трымацца ў тонусе і не расслабляцца, а выбарцам — шукаць памочнікаў для вырашэння праблем», — кажуць стваральнікі сайта на старонцы „Пра сэрвіс", выйсце на якую месціцца на галоўнай старонцы. Натхняльнікі праекта чамусьці не пазначаюць ані сваіх імён, ані арганізацый ці ініцыятывы, якую прадстаўляюць. Пры гэтым, праўда, яны адзначаюць, што не з'яўляюцца прадстаўнікамі нейкіх палітычных партый ці рухаў, і не лабіруюць чыіхсьці палітычных інтарэсаў.

Каб прымусіць улады прыслухоўвацца да голасу народа, «Выбірай.by» прапануе карыстальнікам звяртацца да сваіх дэпутатаў з разнастайнымі зваротамі. Нават даюцца парады, як лепей скласці зварот. Ну а калі «няма ідэй, пра што запытацца свайго дэпутата, але вельмі хочацца — зірніце рубрыку „Шаблоны зваротаў", можа знойдзеце цікавы вам варыянт». Калі нават і шукаць нічога не хочацца, то стваральнікі сайта папросту просяць хаця б падпісаць ужо гатовы тэкст, размешчаны ў рубрыцы „Грамадскія звароты". Праўда, і гэта, відаць, не надта натхняе карыстальнікаў, бо ў той падрубрыцы змешчаны літаральна адзін зварот, які пры неабходных 300 асобах за палову месяца падпісалі толькі дзесяць.

Нягледзячы на тое, што сайт працуе пакуль у тэставым рэжыме, праца па яго напаўненні карыснай інфармацыяй зроблена не малая. Так, на „Выбірай.by" кожны можа знайсці таго ці іншага дэпутата беларускага парламента, пабачыць колькі да яго было зваротаў, даведацца аб альтэрнатыўных кандыдатах.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА



Доктар Эсперанта

# 100 гадоў з дня смерці Лазара Заменгофа

Красавік гэтага году пазначаны сотымі ўгодкамі з дня смерці Людвіка (Лазара) Заменгофа, вынаходніка мовы эсперанта. Адны крыніцы падаюць днём смерці доктара 14, іншыя 27 красавіка. Нарадзіўся Лазар у Беластоку ў 1859 г., быў першым дзіцём у сям'і выкладчыка Беластоцкай рэальнай вучэльні Мардухая Заменгофа. У сям'і было яшчэ пяць сыноў і пяць дачок. У 1873 г. сям'я пераехала ў Варшаву, праз год Лазар паступіў у 4-ы клас Другой мужчынскай гімназіі. Ужо там рабіў спробы стварыць міжнародную мову з вельмі багатай, але і складанай граматыкай. Калі ён вывучыў паслядоўна нямецкую, французскую, лацінскую, грэцкую, англійскую мовы, то пастанавіў, што міжнародная мова зносін мусіць мець параўнальна простую граматыку з шырокім выкарыстаннем суфіксаў і прэфіксаў для складання вытворных слоў.

Да 1878 г. яго праект „Lingwe uniwersala" быў практычна завершаны. 17 снежня Заменгоф з гімназічнымі сябрамі адсвяткаваў стварэнне новай мовы. Але ён быў яшчэ занадта малады, каб друкаваць гэтую працу. Пасля сканчэння гімназіі стаў вывучаць медыцыну ў Маскве, потым у Варшаве. У 1885 г. скончыў універсітэт і працаваў лекарам-акулістам у мястэчку Вейсеяй (цяпер Літва), дзе жыла сям'я сястры Фані Піковер. З 1886 г. працаваў у Плоцку. Працуючы лекарам, працягваў удасканальваць праект міжнароднай мовы. Цягам двух гадоў збіраў сродкі на публікацыю кнігі, пакуль не атрымаў грошы на выданне ад свайго будучага цесця Аляксандра Зільберніка. У 1887 г. брашура пад назвай „Д-ръ Эсперанто. Международный языкъ. Предисловие и полный учебникъ" («D-ro Esperanto. Lingvo internacia. Antaŭparolo kaj plena lernolibro») была надрукавана па-расейску. Услед пайшлі выданні па-польску, па-французску і па-нямецку. Сярод эсперантыстаў гэты падручнік вядомы пад назвай Першая кніга (Unua libro).

У пошуках большага заробку ў кастрычніку 1893 г. Заменгоф прыехаў у Гродна, дзе адчыніў афтальмалагічны кабінет у доме № 4 па вуліцы Паліцэйскай (цяперашняя Кірава). Не толькі меў доктарскую практыку, але і ўдзельнічаў у працы таварыства лекараў Гарадзенскай губерні. Таксама быў памочнікам суддзі ў ведамасным судзе. Вылучаўся прынцыповасцю і строгасцю. Пакінуў Гродна ў кастрычніку 1897 г., а ў снежні пасяліўся ў Варшаве ў небагатым габрэйскім квартале.

Для Заменгофа мова эсперанта была не проста сродкам зносін, але і спосабам распаўсюду ідэй. Ён імкнуўся прапагандаваць ідэю мірнага суіснавання розных народаў і культур. Таксама распрацаваў вучэнне „Homaranismo", каб прапагандаваць гэтыя ідэі. Заменгоф быў першым перакладчыкам мастацкай літаратуры з натуральных моў на эсперанта і першым паэтам на эсперанта. Яго вершы прасякнуты ідэямі братэрства народаў і рэлігійнасцю.

Стаў нефармальным лідарам эсперантаруху, але адмовіўся займаць нейкі афіцыйны пост. З 1895 г. адышоў ад дзейнасці па эсперанта, да якой вярнуўся толькі ў 1902 г. у сувязі з кантрактам на выданне кніг з французскім выдавецтвам. У 1905 г. узнагароджаны французскім ордэнам Пачэснага легіёна. Удзельнічаў у працы ўсіх Сусветных кангрэсаў эсперантыстаў да 1914 г. Накіроўваўся на адкрыццё чарговага кангрэсу ў Парыж, але пачалася Першая сусветная вайна. Цягнік спынілі пад Кёльнам, давялося вяртацца кружным шляхам праз нейтральныя краіны. Цяжкім ударам стала гібель на фронце малодшага брата Аляксандра ў 1916 г. Сам памёр у акупаванай Варшаве ў наступны год.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Вялікдзень у бібліятэцы

Сапраўдная падзея. У нашу школьную бібліятэку ў Крынках прыйшлі дзеткі з крынскага садка, упершыню. З зацікаўленасцю слухалі расказ пра працу бібліятэкара, пра бібліятэчныя будні. Шаноўных гасцей чакалі таксама сюрпрызы. Адным з іх быў візіт, таксама першы, спадарыні Віталлі Кішкель — спявачкі мясцовага хору ветэранаў «Пагодна есень». Падзялілася яна з намі велікоднымі ўспамінамі.

У дзіцячым слоўніку паявіліся з гэтай нагоды новыя словы:

— валоканне — велікоднае калядаванне;

— валакальнікі — велікодныя каляднікі;

— валачонна — велікодныя падарункі хросным дзецям;

— пірог — драджджавая булка.

Хто сёння ведае, што ў Крынках калісь калядавалі на Вялікдзень. А вось нашы дашкольнікі ўжо ведаюць. Валакальнікі славілі Уваскрэсенне Хрыстова на беларускай, польскай і расейскай мовах. Пад вокнамі хат, у якіх жылі панны, гучалі «Павы» і «Канапелькі» — нерэлігійныя, народныя творы, якія часта пачыналіся словамі «Эй, дзень добры, панянэчка, чом ні стоіш у акянэчка, чом ні стоіш, не выглёндаш, бэндзе ехаць кого жондаш».

Чаму вядучым матывам валакальных песень была пава? Мабыць, з-за яе красы, напамінаючай велікодныя крашанкі ці пісанкі. Спадарыня Віталля валокала на пераломе 50-х і 60-х гадоў. Удакладняючы, займаліся гэтым хлопцы. Якраз яе старэйшы брат быў галоўным правадыром гуртка валакальнікаў.

— Я толькі хадзіла за імі, — гаворыць спадарыня Віталля. — Бралі мы з сабой вялікую карзіну на падарункі ад гаспадароў і ўласнаручна зроблены бубен. Стукалі ў акно і прасілі: „Pani gospodyni, panie gospodarzu, czy można was rozweselić i nam wesołym być?”.

Калі гаспадары пагаджаліся, тады спявалі:

„Tonka, lionka, kanapielka.  
Jeszcze tońsza, jak panienka.  
Pawy pasie, pióra zbiera.  
A z tych piórek wianek wije.  
Wiła, wiła i uwiła i do główki przyszpiliła.  
Skąd się wzieli bujne wiatry  
I zarwały z panny wieniec i zaniosły w ciemny Dunaj.  
Skraj Dunaju dróżka iszła i tą dróżką panna iszła.  
Napotkała trzech rybacy. Trzej rybacy, równi bracia,  
A jednemu złoty pierścień, a drugiemu z panny wianek,  
A trzeciemu sama młoda, sama młoda jak jagoda.  
A co będzie za nagroda?  
Kopa jajek na talerzu i kiełbasą okręcone i białym serem zawierszone”.

На канец гаварылі вершык:

„Jestem ja żaczek, jak polny robaczek.  
Na dworze stoję, zimna się boję.  
Piraha nie krajajcie, całego dajcie.  
Złotówki nie żałujcie, sto ofiarujcie,  
Żeby wasze dzieci pamiętali, że my w tych krajach bywali”.

Заплатай за валоканне былі чырвоныя яйкі і пірагі. Чырвонымі яйкамі дзеткі ў святочныя дні гулялі на вясковай вуліцы ў выбіванкі. Выбіраць наймацнейшыя яйкі дапамагалі ім бацькі альбо старэйшыя браты. За валачонным — ізноў за чырвонымі яйкамі і пірагом — беглі да хрышчоных бацькоў. Хрышчоны спадарыні Віталлі, не дачакаўшыся, сам сядаў на ровар, каб прывезці ёй валачонна. Так было ў Лазнісках, што ў Шудзялаўскай гміне, роднай вёсцы спадарыні Віталлі.

У сваю чаргу сталыя наведвальнікі нашай бібліятэкі выступілі перад гасцямі з мастацкай праграмай. Праспявалі мы валакальныя песні з Азяран, Крушынян і Піражкоў. Былі і народныя танцы. Лысага станцаваў з намі дашкольнік Бартэк Кукіш. Гэтаму танцу навучыла яго старэйшая сястра Амэлька — член калектыву «Заранка».

На канец я і спадарыня Віталля атрымалі ад дзяцей і іх настаўніц словы падзякі і прыгожыя папяровыя кветкі, а нашы спявачкі — шакаладныя цукеркі.

**Іаанна ЧАБАН**

# Лавачкі

Ездзіў я 28 сакавіка гэтага года ў Гайнаўку. Быў пагодлівы сонечны дзень. Вясна прыйшла! Многія жыхары горада, а перш-наперш у пенсіянерскім узросце, выйшлі з малымі дзяцьмі, а то і з сабачкамі на шпацыр у парк, на лавачкі ў скверыкі. Вось іменна на лавачкі. У Гайнаўцы іх шмат. Пра гэта паклапаціліся гарадскія ўлады. Многія лавачкі знаходзяцца пад дашкамі. Тады і дождж не страшны. Ёсць дзе схавацца ад яго.

Прыгожыя драўляныя (гэта важна, бо такія якраз прыязныя чалавеку) аранжавага колеру лавачкі сустрэнем на вуліцах 3 Мая, Пілсудскага, Баторыя, Верабея, Ліпавай, Ракавецкага і іншых. На іх можна пасядзець у гарадскім парку ў чатырохвугольніку вуліц Пілсудскага, Арміі Краёвай, Паркавай і Зіна, у скверыках ля галоўнай вуліцы 3 Мая, ля скрыжавання з кругавой развязкай вуліц 3 Мая, Варшаўскай, Паркавай і Верабея.

Лавачкамі часта карыстаюцца старэйшыя людзі, якія вяртаюцца з пакупкамі дадому. Яны, пажылыя людзі, хутка стамляюцца і прысядуць, каб хаця крыху адпачыць. Апрача таго і цяжкія „пакеты” паставяць каля сябе на лавачцы, а не на пясок — ён жа бывае мокры і забруджаны. Лавачкі для старэйшых вялікая выгада. На лавачкі ахвотна садзяцца і дзеці.

**(яц)**


АБ БА

ЗАПРАШЭННЕ

на прэзентацыю кнігі „Historia Białorusinów Podlasia”

і сустрэчу з яе рэдактарамі Алегам Латышонкам і Славамірам Іванюком.

Сустрэча пачнецца канцэртам гурта “Кумы і сванькі”.

27.04.2017 (чацвер) 18:00

*Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*


# 30.04 — 06.05

**(22.03. — 20.04.)** Задавольвайся малым. Інакш у пагоні за небывалым поспехам можна сапсаваць адносіны з блізкімі людзьмі і на доўгі час пазбавіцца іх падтрымкі. Асаблівую ўвагу надай свайму духоўнаму развіццю. Медытацыі, чытанне адпаведнай літаратуры, шпацыры на свежым паветры найлепш паўплываюць на эмацыйны стан. Праз тры тыдні можаш адчуць моцную стомленасць, але прадоўжыцца яна нядоўга, зноў будзеш поўны сіл і энергіі.

**(21.04. — 21.05.)** У ніякім разе не апускай рук і не плыві па плыні. Інакш існуе небяспека трапіць у даволі цяжкае становішча і выпусціць шанц змяніць сваё жыццё да лепшага. Аднаві старыя кантакты і абзавядзіся новымі. Навядзі парадак у сваіх справах і старанна расплануй будучыя дзеянні ва ўсіх сферах жыцця. Не адмаўляйся ад грамадскіх мерапрыемстваў, там сустрэнеш людзей якія цябе натхняць на новыя пачынанні і дапамогуць дасягнуць пастаўленыя мэты.

**(22.05. — 22.06.)** Нічога не сапсуй. З-за паспешных і неабдуманых рашэнняў можаш трапіць у сур'ёзныя непрыемнасці. Лепш назірай і асабліва не мітусіся. І нават калі падобны лад жыцця можа здацца немэтазгодным, у будучыні ён прынясе добры плён. У стане поўнага спакою знойдзеш ідэальны выхад з праблемнай сітуацыі. Не варта асабліва прыслухоўвацца да рад старонніх. Найлепшы дарадца — уласная інтуіцыя.

**(23.06. — 23.07.)** Будзе мноства розных сітуацый, якіх лепш не прабуй уладжваць самастойна. Не супраціўляйся лёсу, а проста падпарадкуйся плыні жыцця. Праяўляй настойлівасць і працавітасць у справах, так хутчэй даможашся поспеху. Будзь больш стрыманым, бо залішняя актыўнасць можа перашкодзіць дасягненню жаданай мэты. Дбайнае планаванне дапаможа скончыць пачатыя справы. Цешся жыццём. Будзь больш асцярожным у зносінах, каб выпадкова не пакрыўдзіць і не настроіць людзей супраць сябе.

**(24.07. — 23.08.)** Праяўляй стрыманасць і дружалюбнасць у дачыненні да іншых людзей. Зоркі перасцерагаюць ад залішніх страт, якія могуць унесці дэстабілізацыю ў тваю матэрыяльную сферу. У тваё асяроддзе могуць трапіць карыслівыя людзі. Але голас тваёй інтуіцыі ўратуе цябе ад сур'ёзных памылак. Спакойна стаўся да нечаканасцей ад лёсу. Не прымай хуткіх і неабдуманых рашэнняў. Прыбытак ад удалага завяршэння мінулага праекта ўмацуе твой фінансавы стан.

**(24.08. — 23.09.)** Працавітым Дзевам неабходна не забываць пра адпачынак, варта вылучаць час для шпацыраў і пікнікоў. Зносіны з блізкімі людзьмі і адзінота з прыродай напоўняць незвычайнай энергіяй і падораць натхненне. У цэлым сітуацыя будзе спрыяльнай, але праз пару тыдняў могуць узнікнуць складанасці, звязаныя з падпісаннем важных дамоў або непаразуменні з калегамі па працы.

**(24.09. — 23.10.)** Жыццё як бурлівая рака. Падзеі будуць ляцець з маланкавай хуткасцю. Але калі не ўсе яны будуць мець выключна пазітыўнае адценне, не варта турбавацца. Пазбягай толькі сумніўных прапаноў і давярай сваёй інтуіцыі. Самы час адправіцца ў падарожжа, нават у далёкія краіны.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш напоўнены незвычайнай энергіяй, якой зарадзіш усіх навакольных. Цяпер вырашацца ўсе праблемы, якія не давалі табе спакою раней. Дзейнічай вельмі хутка. Прыслухайся да парад больш дасведчаных і старэйшых. Магчыма, прыйдзецца ісці на нейкія кампрамісы. Не абыдзецца без дробных непрыемнасцей. Але ў выніку ўсё вырашыцца найлепшым чынам.

**(23.11. — 22.12.)** Давядзецца заняцца руціннай працай, завяршаць няскончаныя справы, разбірацца з назапашанай дакументацыяй. Не ўмешвайся ў канфлікты блізкіх ці сяброў. Лепш за ўсё захоўваць нейтралітэт і не выказваць свайго пункту гледжання ўдзельнікам канфлікту. Некаторыя знаёмыя могуць выкарыстоўваць Стральцоў для дасягнення сваіх карыслівых мэт. З імі неабходна як мага хутчэй развітацца.

**(23.12. — 20.01.)** Май будзе вельмі насычаным. Засяродзь увагу на фінансавых, бытавых і жыллёвых нюансах. Будуць важныя дзелавыя і рамантычныя сустрэчы, павелічэнне выдаткаў на бягучыя патрэбы. Май абяцае быць прадуктыўным, а рызыка здзяйснення памылак мінімальная. Прымай важныя рашэнні, абдумвай новыя планы. Не бач жыцця ў змрочным святле!

**(21.01. — 19.02.)** Вельмі важны перыяд твайго жыцця. Спатрэбіцца велізарная сіла волі, мэтанакіраванасць. Трэба будзе аналізаваць ранейшыя памылкі і няўдачы, дзейнічаць па выразна складзеным плане, цвяроза ацэньваючы сітуацыі. А пераадоленне цяжкасцей дапаможа табе падняцца вышэй на прыступцы матэрыяльнага дабрабыту.

**(20.02. — 21.03.)** Адчуеш сябе панам сітуацыі ў асабістым і прафесійным жыцці. Больш уважліва стаўся да патрэб іншых людзей. Аказвай пасільную дапамогу тым, якія яе патрабуюць, і аддзяка вернецца да цябе ў сто разоў. Бо шукаць дапамогу і параду будуць менавіта ў цябе. Не будзь меркантыльным, калі справа ў шчырых пачуццях, каб не адштурхнуць ад сябе каханага чалавека.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** хімічны элемент н-р 1, **2.** узбярэжны пясчаны нанос, які перамяшчаецца ветрам, **3.** жыхар Варшавы, **4.** кантынент з Дунаем і Нёманам, **5.** любіць узяць, **6.** неадукаваны чалавек, **7.** адукацыйная „гадзіна”, **8.** раздзел матэматыкі, які вывучае прасцейшыя ўласцівасці лікаў і асноўныя дзеянні з імі, **9.** высакамернасць, фанабэрыстасць, **10.** свінскі нос, **11.** абарог без „капелюша”, **12.** не свята, **13.** грашовая адзінка Бенілюкса, **14.** спадзяванне, **15.** Яўген, савецкі гісторык (1874-1955), аўтар манаграфіі „Напалеон”, **16.** індыйскі князь, **17.** веснавы месяц, **18.** вывад, лагічнае заключэнне.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская прагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 15 нумара**

Аравія, Венера, касец, кут, Сава, Сува, Украіна, цуд, чэк.

Рашэнне: **У сакавіку вада не цячэ — у красавіку трава не расце**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі.


Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960  
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.  
**Старшыня**: Яўген Вапа.  
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.  
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.  
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*  
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*  
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***  
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.  
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.  
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.  
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.  
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.  
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.  
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**

„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.

Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.

Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.

Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl

Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**  
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**  
BANK PEKAO S.A. O/Białystok  
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (83)



Што значыць слова Прыпяць?

— Тлумачэння трэба шукаць дзесьці каля Чарнобыля, — кажа гісторык Сцяпан Аласюк.

— Чаму якраз там?

— Бо ў любашоўскіх гаворках гук «я» не выступае, таму такое слова тут не магло ўзнікнуць.

Пачуць такі лінгвістычны аргумент у адносінах да палескіх рэк гэта свята. Найбольш распаўсюджаная версія, што Прыпяць пайшла ад слова «прыпінаць». Карацей, гэта такая рака, дзе па яе берагах людзі прыпіналі лодкі. Каб падбіць верагоднасць гэтай версіі, часта публікуюць здымкі тых жа лодак, пакінутых ля берагоў ракі. Такая гісторыя простая і для ўсіх зразумелая. І адначасова зялёная, інфантыльная. Якраз назовы рэк захоўваюць самы стары і неразгаданы сэнс. Часта гэта моўны рэлікт па вымерлых, загінулых народах. Вось у часы Герадота на прыпрыпяцкай тэрыторыі названыя неўры, будыны, скіфы. А сама рака для старажытнага падарожніка явіцца паўночным морам, за якім ужо канец свету.

Тым не менш імёны рэчак ва ўсім свеце прыдуманы паводле аднаго прынцыпу. Найчасцей яны выяўляюць характар ракі. У гэтым месцы Сцяпан Аласюк прапанаваў небанальны варыянт:

— Магчыма, слова «прыпяць» значыць «бязгучная, глухая дарога». Яна цягам усяго года, нават тады калі разліваецца на дзясяткі кіламетраў, плыве бязгучна ды што крок меандруе, разліваецца, цячэ ў некалькіх рэчышчах, што лёгка згубіць дарогу, калясіць у адным месцы або выплысці ў зусім іншым, непажаданым, месцы.

Апошняя версія падыходзіла да характару прыпрыпяцкіх людзей, якія здаваліся лагоднымі і адначасова неразгаданымі. Кожны хто сюды патрапіў, адчуваў радасць і адначасова страх. Мяне не пакідала яшчэ ўражанне, што пад нагамі плыве падзямельная мегарака або знаходзіцца мора.

* * *

Яшчэ больш здзіўляла адна рэч. Ніхто дакладна не ўмеў сказаць адкуль выплывае Прыпяць. Нават у літаратуры, якую прапанаваў Прыпяцкі нацыянальны парк, пачатак пазначалі зусім у іншым месцы, чым падаюць афіцыйныя крыніцы. У час размовы аказалася, што ніхто з парку не з'ездзіў да крыніц, каб праверыць і пабачыць на свае вочы пачатак палескай Амазонкі. Тое ж самае датычыла канчатковага адрэзка ракі, які ўліваецца ў Кіеўскае вадасховішча. Уся зацікаўленасць зводзілася толькі да меж раёна. Тое, што адбывалася ў суседняй «гміне», здавалася чужым, нецікавым і нават варожым. Ментальную перавагу заўсёды дэманстравалі жыхары больш задбаных і багацейшых раёнаў. У гэтай міжраённай тусоўцы асобнае месца вылзялялася прыпяцкім жыхарам на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Гэты адрэзак ракі лічылі недаступнай чужынай, у якой свае справы і прэстыж.

У гэтым месцы таксама пазітыўна здзівіў Сцяпан Аласюк, які, як нямногія інтэлігентныя людзі на Палессі, разумеў сувязі з Пінска-Тураўскім княствам. Шмат у чым дапамагла тут жывая памяць пакаленняў. Вось у яго Сэліску старыя спявалі старажытную песню «А в Туровэ на мурове». І ён, будучы дзіцём, уяўляў той залаты Тураў XII стагоддзя і верыў, што такі горад існуе яшчэ на свеце. Доказ на існаванне горада з цудадзейнай выявай Багародзіцы ўнушала рака, якая вяла ў той жа Тураў. Для людзей з пакалення дзядоў такое падарожжа здавалася не толькі натуральным, але і адзіным. Гэта сведчыла пра адно. Яшчэ для пакалення дзядоў гісторыка рака явілася шляхам і домам. У дарозе на Тураў людзі спыняліся ў прыпрыпяцкіх сёлах, там начавалі і дзяліліся з імі ядой і аповедамі. Падабенства гаворак, стылю жыцця і густаў застаўляла думаць пра сябе як пра сваіх людзей з далёкіх, аднак не зусім чужых сёлаў.

Паколькі падарожжа з цячэннем ракі з'яўлялася натуральнай справай, настолькі зваротная дарога патрабавала адпачынку і дапамогі мясцовых людзей. Такі спосаб камунікацыі і грамадскіх зносін існаваў па шасцідзясятыя гады XX стагоддзя. У памяць гэтай з'явы сёння прамаўляюць прозвішчы, якія выступаюць толькі ў прыпрыпяцкіх сёлах.



* * *

Сваё падарожжа па Прыпяці я пачала з візіту ў лясной мясціне Буднікі, што ў Любомльскім раёне. Тут пазначаны афіцыйны пачатак ракі. Адсюль сем кіламетраў да Буга. Пачатак Прыпяці ўяўляе сабой роў, перакрыты шлюзамі. У час сухіх гадоў пэўныя адрэзкі каналаў перасохлыя, іншыя напампаваныя вадой. Меліярацыя значна скалечыла краявід і прывяла да гаспадарчай руіны. На адабраных лесу палетках, дзе за калгасных гадоў сеялі лён і грэчку, сёння заляглі сумныя аблогі са скупым пустазеллем. Той, хто пабачыць пачатак «палескай Амазонкі», адразу забудзецца пра рамантыку.

Хаця, не да канца так!

Схільнасць да ідэалізацыі ракі ў найбольшай ступені праяўляюць аўтары з Рэспублікі Беларусь, то-бок тыя, якія ніколі не пабывалі ў гэтым недаступным кутку Украіны. Яны часта параўноўваюць Прыпяць да лістка лясной папараці. Нібыта такі кшталт уяўляе сабой рака і яе прытокі з высі космасу. Больш апантаныя лірыкі параўноўваюць той лісток да чароўнай папараці-кветкі. Магчыма, у сваім творчым палёце «бачаць» свет дамеліярацыйнай эпохі. Папраўдзе першыя сто кіламетраў Прыпяці ўяўляюць сабой нудотны і перасохлы роў, а часам некалькі равоў. Такі від цягнецца ажно за старажытнае Ратна.

Мне аднак магічна-фларыстычнае параўнанне падыходзіла да смаку. Ад дзіка-лясных Буднікаў па старажытны Нобель, быццам пуцяводная зорка, суправаджала мяне адна расліна. Мова пра жоўтыя гарлачыкі, якія парастаюць берагі Прыпяці. Магчыма, гэтую расліну завялі тут самыя старажытныя народы, якія сяліліся на яе высокіх берагах. Гарлачык займае асобнае месца ў кухні палешукоў. Ад прадзедаў спакон вякоў тут збіралі свежыя карэнішчы гарлачыка і лічылі іх першым, вясновым смакоццем. Магчыма, каб захаваць папуляцыю расліны, яе насаджвалі і даглядалі як сённяшнюю капусту ці памідоры. Бераг ракі (а таксама возера) тут верагодна служыў яшчэ як вадзяны агарод. Цікава, што той смакавіты гарлачык расліна лёгка атрутная. І гэта таксама пасавала да Палесся. Магчыма, гэты смакавіты гарчлачык дапамагаў яшчэ ў магічных і лекавых практыках, якія па сённяшні дзень працвітаюць у гэтым закутку цэнтральнаай Еўропы.

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



Вадзяны агарод і калонія белых чапляў

ISSN 0546-1960